ГАЗЕТА
ТВОРЧАЙ ІНТЭЛІГЕНЦЫІ
БЕЛАРУСІ

# ЛіМ ЛІТАРАТУРА І МАСТАЦТВА

14 ЛІПЕНЯ 1995 г. № 28 (3800) Кошт 2 000 руб.





# "ІМГНЕННІ ПРАЦЫ ЯК ІМГНЕННІ ШЧАСЦЯ"

## АД СВЯТА ФРАНКАФОНІІ ДА ФЕСТЫВАЛЮ ШКОЛЬНЫХ СПЕКТАКЛЯЎ

Вясна пераймала зіму. Франкапрыхільныя спадары мінчукі з іншагароднімі гасцямі апанавалі Беларускі лінгвістычны універсітэт, каб пабавіцца на свяце франкафоніі, — усяго, што гучыць па-французску. "ЛіМ" не абмінуў гэтае падзеі. Асабліва каштоўнай і вабнай здалася тады роля Французскага пасольства ў Беларусі. Ягоны лінгвістычны аташэ (па пытаннях адукацыі) Поль Рамановіч ці то заахвоціў, ці то завабіў у святочны працяг...



Працягвалася і вясна. Убіралася ў сілу. Красавала, — паводле календара. 74-ая мінская школа — з тых, дзе французскай мове навучаюцца ўсур'ёз і надоўга, адкрывала мастацкую галерэю і паказвала спектаклі школьнага тэатра. Паводле дырэктара Нэлі Лойкі, пашырала межы эстэтычнага выхавання навучэнцаў. Іх, даражэнькіх, сорак гадоў навучала — ужо беларускай мове і літаратуры — настаўніца Галіна Гоманава. Яна атрымала званне заслужанай, а цяпер яе заслужанае імя надалі галерэі. Вядомыя мастакі Уладзімір Гоманаў і Уладзімір Стальмашонак дапамаглі сфармаваць экспазіцыю і выступілі на адкрыцці. Пажадалі, каб да работ Я. Ціханава, М. Апіёка, Б. Аракчэева, Бархаткова-старэйшага, А. Кашкурэвіча דадаліся лепшыя работы школьнікаў. Мяркуючы па тым, што выставілі ў доўгіх калідорах дзеці (вось толькі чатыры прозвішчы — Н. Хадаркевіч, С. Сізанава, Т. Андрэйчыкава, С. Ганчарык), гэтае пажаданне ўжо спраўджваецца...

Спраўджваецца і іншае: свой маленькі свет, абжыты ды ўвасоблены ў творы, у дзеянні, у вобраз думак і манеру паводзін, вылучае 74-ую школу нават з шэрагу падобных, спецыялізаваных, — пакуль толькі ў навучанні французскай мове. Хоць менавіта ёй наканавана зрабіцца адной з тэатральных мінскіх школ, — я мяркую па той выключнай ступені адказнасці і любові да тэатра, з якімі ў школе робяцца спектаклі, па тым, як расклад урокаў суседзіцца з размеркаваннем роляў, па настроях дзяцей і радасці дарослых... Ды ці мала банальных меркаванняў можна яшчэ мець? Небанальным можа быць тэатр. Спектаклі. Пастановачныя намаганні Таццяны Шылавай (метадыста па выхаваўчай рабоце) і Соф'і Давідовіч (настаўніцы рускай мовы і літаратуры), якой дапамагае сын Кірыла (як добра, што ў мастацкай газеце не трэба апісваць іх афіцыйныя выкладчыцкія званні ды пасады). Гэта яны даўмеліся прысвяціць свае спектаклі тым, хто стварае, нягледзячы ні на што. Тым, хто імгненні працы ўспрымае як імгненні шчасця. Гурток для пазакласных заняткаў створаны тры гады таму педагогам Ліліяй Шабуневіч, абяцае вартыя і мастацкія праявы ўжо цяпер! "Вось вам і сціплы школьны тэатр", — радаваўся Поль Рамановіч, а мне чулася: каб зрабіць для нас такое адкрыццё, яму толькі

*(Працяг на стар. 13)*

# Барыс САЧАНКА

Вялікую страту панесла беларуская літаратура. 5 ліпеня 1995 года раптоўна памёр таленавіты пісьменнік, лаўрэат Дзяржаўнай прэміі Беларусі, грамадскі дзеяч Барыс Іванавіч Сачанка. Цяжка змірыцца з думкай, што не стала цудоўнага, поўнага творчых сіл і жыццёвай энергіі чалавека, які да апошняга дыхання аддаваў сябе вялікай справе нацыянальнага Адраджэння, роднай літаратуры.

Барыс Іванавіч Сачанка нарадзіўся 15 мая 1936 года ў вёсцы Вялікі Бор Хойніцкага раёна Гомельскай вобласці ў сям'і рабочага. У сямігадовым узросце разам з бацькамі быў вывезены ў Германію. Пасля вяртання на радзіму скончыў Хойніцкую сярэднюю школу N 1, а затым Беларускі дзяржаўны універсітэт, спалучаючы вучобу з працай у часопісе "Вожык". Шмат гадоў працаваў у аддзеле прозы часопіса "Полымя". З 1976 па 1986 гады — сакратар праўлення Саюза пісьменнікаў Беларусі. Апошні час актыўна займаўся выдавецкай дзейнасцю, працуючы спачатку загадчыкам рэдакцыі выдавецтва "Мастацкая літаратура", а потым галоўным рэдактарам выдавецтва "Беларуская энцыклапедыя".

Першае апавяданне Барыса Сачанкі з'явілася ў друку ў 1956 годзе ў часопісе "Маладосць". Яркая, самабытная проза маладога аўтара адразу звярнула на сябе ўвагу прыхільнага чытача і крытыкі. Увесь наступны шлях пісьменніка быў пазначаны высокай творчай актыўнасцю, разнастайнасцю тэматыкі. Ён пісаў пра мінулую вайну, вяскоўцаў, пра сваё роднае Палессе таленавіта, шчыра, пранікнёна. Першыя зборнікі прозы "Дарога ішла праз лес", "Барвы ранняй восені", "Зямля маіх продкаў", "Пакуль не развіднела", "Апошнія і першыя" ўбачылі свет у 60-я гады. Яшчэ больш адметнымі былі наступныя творы: "Дарогі" і "Аксана" (1971), "Памяць" (1973), "Тры аповесці" (1976), "Ваўчыца з Чортавай Ямы" (1978), "Горкая радасць вяртання" (1987), "Вечны кругазварот" і "Родны кут" (1989), раман "Чужое неба" (1975), трылогія "Вялікі лес" (1980, 1982, 1984). Плённа працаваў Барыс Сачанка ў галіне дзіцячай літаратуры, сатыры і гумару, крытыкі, шмат перакладаў з моў іншых народаў. Значнымі былі і яго літаратурныя даследаванні.

Шмат жыццёвай энергіі аддаваў ён грамадскай дзейнасці, абіраўся дэпутатам раённага і гарадскога Саветаў, з'яўляўся членам многіх грамадскіх фарміраванняў, рэдкалегій мастацкіх выданняў, удзельнічаў у рабоце сесіі Генеральнай Асамблеі ААН.

За вялікі ўклад у нацыянальную літаратуру, актыўную грамадскую дзейнасць Барыс Сачанка ўзнагароджаны двума ордэнамі "Знак Пашаны", медалём Францішка Скарыны, ушанаваны літаратурнай прэміяй імя І. Мележа.



Барыс Іванавіч Сачанка назаўсёды застанецца ў нашай памяці як сумленны, зычлівы чалавек, старанны, рупны працаўнік, таленавіты летапісец нашага жыцця.

Ён моцна любіў сваю родную Беларусь і аддаў ёй увесь свой талент.

**М. Чыгір, Л. Сініцын, У. Гаркун, У. Русакевіч, А. Бутэвіч, В. Стражаў, У. Ярмошын, Р. Барадулін, Я. Брыль, В. Быкаў, Н. Гілевіч, М. Танк, І. Чыгрынаў, І. Шамякін, В. Адамчык, С. Андраюк, В. Блакіт, Г. Бураўкін, А. Вярцінскі, Р. Гарэцкі, М. Гіль, Г. Далідовіч, А. Дудараў, А. Жалязоўскі, А. Жук, С. Законнікаў, В. Зуёнак, В. Каваленка, В. Казько, А. Кудравец, М. Карловіч, У. Ліпскі, А. Лойка, М. Лужанін, В. Лукша, П. Макаль, Я. Малашэвіч, А. Мальдзіс, А. Масарэнка, М. Мятліцкі, І. Навуменка, У. Някляеў, У. Паўлаў, А. Пісьмянкоў, І. Пташнікаў, Я. Саламевіч, С. Самуэль, Я. Сіпакоў, В. Супрунчук, В. Ткачоў, І. Хаўратовіч, А. Шабалін**

# СЛОВА ЖАЛОБЫ І СМУТКУ

Законы прыроды няўмольныя. Але прымірыцца з імі немагчыма, калі чалавек памірае заўчасна, у росквіце сіл.

Я без малога 50 гадоў у Саюзе пісьменнікаў, каля трыццаці гадоў быў у кіраўніцтве і развітаўся, можа, з сотняй сваіх калег і сяброў. Але незалежна ад рангу адыход любога шчырага працаўніка літаратуры пакідаў адчуванне збяднення нашага баявога палку, пустату ў яго шэрагах. Прыходзілі маладыя, станавіліся ў строй, але пустату не запаўнялі. Бо ніхто не можа замяніць мастака! Ён непаўторны.

Раптоўная смерць Барыса Сачанкі — незалечная рана сям'і боль блізкіх і сяброў і невымерная страта для беларускай літаратуры, якая і без фізічных смерцяў творцаў яе перажывае калапс.

Мне асабліва балюча. Барыс Іванавіч — мой зямляк, вучань і сябра. Я шчыра любіў гэтага чалавека і пісьменніка. Ён радаваў сваёй творчасцю. Празаік шырокага дыяпазону, дальняга бою і аптычнай трапнасці. Усё, што ён пісаў, прыцягвала ўвагу калег, яго чытачоў, крытыкаў: апавяданні і аповесці, трылогія раманаў, нарысы, эсэ, крытычныя артыкулы, даследаванні. Барыс Іванавіч быў самы актыўны шукальнік забытых пісьменнікаў, тых, каго лёс занёс на край свету, і згубленых твораў, а іх нямала нават у класікаў нашай літаратуры. У некралогу пералічаны яго кнігі. Але не магу не нагадаць эпічныя творы — "Чужое неба", трылогію "Вялікі лес", незвычайную па лірызме і любові да сваіх землякоў кнігу "Зямля маіх продкаў".

Барыс Іванавіч быў змагар. А кожны змагар — пакутнік, бо гэта чалавек, у якога баліць сэрца за людзей, за справу, а ў пісьменніка яно асабліва баліць, бо яго справа, яго клопат — гэта жыццё ва ўсіх яго праявах, высокіх і нізкіх.

Хлопчыку Барыску абпаліла сэрца вайна — палон. Палон дзіцяці! Што можа быць больш пачварнае, антычалавечае, як узяць у палон дзіця! Вядомаму пісьменніку паліла сэрца яго сумленне, бо не мог ён быць абыякавы да збяднення народа, да збяднення яго літаратуры, культуры.

Калі я тры гады назад адыходзіў на пенсію з пасады галоўнага рэдактара выдавецтва "Беларуская энцыклапедыя", то назваў сваім пераемнікам Барыса Сачанку. І неўзабаве ён заняў гэтую пасаду. Працаваць яму было значна цяжэй, чым мне: рынак дыктаваў жорсткія ўмовы. Нядоўга давялося Барысу Іванавічу ўзначальваць пачэсны ўчастак нацыянальнай культуры. Але як многа пад яго кіраўніцтвам энцыклапедысты зрабілі!

Памёр Барыс Іванавіч як салдат, на баявым пасту ў сваім рабочым кабінеце.

Вельмі балюча развітвацца з дарагім паплечнікам, таварышам, сябрам. Няхай жа вечна жыве памяць пра выдатнага чалавека, мастака. Няхай жывуць, дарагі Барыс Іванавіч, твае кнігі, твая выдавецкая праца!

Бывай, сябра! Няхай пухам будзе табе родная зямля!

**Іван ШАМЯКІН**

# РАЗВІТАЛЬНЫ

*Барысу Іванавічу САЧАНКУ*

**Негадана так прыходзіць гора,**
**у нябёсах — адзінокі жораў.**
**То ўзмахне крыламі, то застыне,**
**трубны голас коціцца ў святлыні:**
**"Колькі сілы маю — пагукаю:**
**варагоў і родных пасклікаю**
**на высокі круг свой развітальны,**
**на астатні покліч даравальны.**
**Уздымуся ў неба, пакружуся,**
**без мяне вам жыць на Беларусі.**
**А яна, як выдых Пана Бога,**
**апроч вас няма ў яе нікога.**
**Не гарцуйце на яе магілах,**
**Не глуміцеся з радзімы мілай.**
**А яна, цярплівіца святая,**
**прыйдзе час —**
**усё нам прыгадае...**
**Шчэ не веру сам, што адлятаю**
**да чужога воблачнага краю.**
**Ноч апошнюю, мая Купала,**
**як я начаваў — не запытала,**
**расплязла вянок з рамонкаў, смолак,**
**не сказала, дзе шукаць ад сэрца зёлак.**
**Не сцямнелася, а развідняе...**
**Лёгкай смерці, верце, не бывае.**
**Над зямлёй расстайнае світанне.**
**цёплае, як Божае дыханне..."**

**Ала КАНАПЕЛЬКА**

*7 ліпеня 1995 года*

# АСОБА

Ён памёр раптоўна, на працы, у сваім кабінеце — не вытрымала сэрца напружанага, знясільваючага рытму, якім жыў ён апошнія гады. Мы, яго сябры і паплечнікі, развіталіся з ім на Купалле, на старажытнейшае наша народнае свята аддалі яго назаўсёды роднай зямлі, якую Барыс Іванавіч Сачанка любіў і шанаваў усё сваё жыццё, годнасць якой абараняў і зблізку, і здалёк. Здавалася, няма мяжы і нішто не пагражае той напорыстай, скіраванай у будучыню энергіі, якая сыходзіла ад яго, нават стомленага. І вось раптам... Як стрэліў хто ў сэрца...

Беларусь страціла свайго дастойнага, мужнага сына і абаронцу, а я — найлепшага, шчырага і вернага сябра. Амаль сорак гадоў доўжылася наша дружба: як сустрэліся, паступіўшы ва універсітэт, у інтэрнаце на Нямізе, так увесь гэты час, лічы, і не разлучаліся — разам жылі ў адным пакоі, разам працавалі ў часопісе "Вожык", а калі нашы працоўныя сцежкі разыходзіліся, мы ўсё роўна сустракаліся як не штодзень. І ні разу сур'ёзна не пасварыліся. Спрачаліся, але не сварыліся. Колькі перагаворана, перадумана, перамроена! І я ўдзячны лёсу за гэтае незабыўнае сяброўства.

Сябраваць Барыс Іванавіч умеў. Сярод яго сяброў былі міністры і прэм'ер-міністры, партакраты і дэмакраты, кнігалюбы і старшыні калгасаў, камуністы і бэнээфаўцы, дыпламаты і эмігранты. Для яго не мела значэння, да якіх партый і рухаў належалі сябры. Галоўнае, каб чалавек быў шчыры, сумленны, разумны і каб гэтак жа неўтаймоўна, як і ён сам, любіў Беларусь і рабіў усё для яе будучыні. Колькі такіх мудрых, цікавых людзей штогод збіралася ў шчодрай і гасціннай хаце Сачанкаў на 15 мая — на Барысоўе, як мы між сабою звалі дзень нараджэння Барыса Іванавіча.

Ён быў мужны і сумленны. Ніколі не мяняў сваіх думак, ні пад кога не падрабляўся, заўсёды да канца адстойваў свае погляды, за што яго паважалі нават непрыяцелі. Ён не здаў свайго партыйнага білета, не адмовіўся ад нязручнага на сёння членства ў ЦК КПБ і ў той жа час увесь быў аддадзены абнаўленню жыцця, беларускаму Адраджэнню, абараняў мову і гонар свайго народа. Нават пасля рэферэндуму, на якім людзі адмовіліся, па сутнасці, ад сваёй мовы, у апошнім інтэрв'ю-запавеце ён сказаў: "Я пра свой народ вельмі высокай думкі. І нават вынікі рэферэндуму не робяць на мяне негатыўнага ўражання".

Барыс Іванавіч верыў у свой народ і быў перакананы, што ён усё ж некалі загаворыць на роднай мове. Ён быў бескампрамісны ў спрэчках пра мову, ён абараняў яе ўсюды, дзе толькі мог.

*(Працяг на стар. 15)*

# ТЫ НЕ ПАМЁР...

**Ты не памёр. Ты ў сэрцах з намі —**
**Сявец на маладой сяўбе.**
**Радзіма цяжкімі слязамі**
**Аплаквае, Барыс, цябе.**

**Паўлюк ПРАНУЗА**

7.VII.95.

# АРАТЫ

*Памяці Барыса САЧАНКІ*

**А помніць дуб —**
**І лірнік і ашуг, —**
**Як полем, калісь мінным, забароненым,**
**Ён ростам, можа, з пядзю, паляшук**
**Хадзіў і за сахой**
**І за баронамі.**

**І покуль золак**
**Срэбным трос рыззём,**
**Ды ззяў зары паўлінавымі пер'ямі,**
**Вярнуў падзол і тлусты чарназём,**
**Каб перайсці і на загон**
**Паперыны.**

**Зірнуўшы**
**Не на Маркса, — на абраз,**
**Нарог ён вёў упарта і заглыблена.**
**Каб ведалі ці бачылі хоць раз,**
**Якія ён варочаў скібы —**
**Глыбіны!**

**І ходзячы ,**
**Як ля вялізных крыг,**
**Што лемяшом ляжалі ачасаныя,**
**Хаваўся з галавою сярод іх,**
**Уздыбленых ледзь не пад неба**
**Самае!**

**Не зачапіўшы**
**Чэзлую казну,**
**Што з года ў год**
**Ляжала ў банках нецелем,**
**Уласную заводзіў баразну**
**Ажюр ў Парыж і гожую**
**Венецыю.**

**І перш, чым біў**
**На голы лес пярун**
**Ды скаланаў вясёлым рыкам далечы,**
**Задум высокіх прарастала рунь,**
**Здалёк жніво і лета**
**Выглядаючы.**

**Хіба не думаў**
**Днямі пра ўраджай,**
**Блукаючы над Прыпяццю і Сенаю,**
**Хаця ягоны кут і родны край**
**Чарнобыльскім засеўкам**
**Быў засеяны!**

**Няўжо не чуў**
**У мітусні падзей,**
**І пад сасной, і ля чужой лістоўніцы,**
**Што ў самаго пад сэрцам неўспадзеў**
**Пякельнай кропляй міг апошні**
**Стоішча!**

**Як на вайне,**
**Дзе перуноў абвал,**
**А не ў цішы, са свечкай ды з іконаю, —**
**Бы з-за пляча, і — ўмомант напавал! —**
**Як лёсам і планідай**
**Наканавана!**

**Ці бачыць ён,**
**Як спахмурнеў прасцяг!**
**І, хоць далёка восеньскае ворыва,**
**Праводзім мы яго ў апошні шлях,**
**Нібы у вырай незваротны**
**Жорава.**

**Васіль МАКАРЭВІЧ**

**Калектыў рэдакцыі і рэдакцыйная калегія часопіса "Полымя" смуткуюць з прычыны заўчаснай смерці былога супрацоўніка часопіса, вядомага беларускага пісьменніка, лаўрэата Дзяржаўнай прэміі Беларусі, галоўнага рэдактара выдавецтва "Беларуская энцыклапедыя" Барыса Іванавіча САЧАНКІ і выказваюць глыбокае спачуванне сям'і і блізкім нябожчыка.**

**Калектыў Літаратурнага музея Якуба Коласа выказвае глыбокае спачуванне былой супрацоўніцы музея Тамары Андрэеўне САЧАНЦЫ з выпадку заўчаснай смерці мужа — вядомага беларускага пісьменніка Барыса САЧАНКІ.**

**Калектыў выдавецтва "Мастацкая літаратура" глыбока смуткуе з прычыны заўчаснай смерці былога супрацоўніка выдавецтва, члена рэдакцыйнага савета выдавецтва пісьменніка САЧАНКІ Барыса Іванавіча і выказвае спачуванне родным і блізкім нябожчыка.**

# НЯНАВІСЦЬ: ХТО ЯНЫ, ДЗЕЦІ ХЛУСНІ?

## КАРЭСПАНДЭНТ "ЛІТАРАТУРЫ І МАСТАЦТВА" МІХАСЬ ЗАМСКІ ГУТАРЫЦЬ СА СТАРШЫМ СЛЕДЧЫМ ПА АСАБЛІВА ВАЖНЫХ СПРАВАХ ПРАКУРАТУРЫ РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ ВАЛЕРЫЕМ КАМАРОЎСКІМ

**М. ЗАМСКІ: — Тое, што Пракуратура краіны зноў звярнулася да курапацкай тэмы, з'явілася для мяне досыць нечаканай навіной, тым больш, што, здавалася, пасля абнародавання ў свой час дакументаў Урадавай камісіі ў гэтай жудаснай гісторыі пастаўлена апошняя кропка. Ва ўсякім разе для мяне асабіста. Я ж прысутнічаў пры раскопках некаторых курапацкіх ям з астанкамі забітых тут людзей, бачыў чарапы з кулявымі адтулінамі ў патыліцах — характэрнай прыкметай "почырку" энкавэдысцкіх катаў, трымаў у руках шчодра пасеяныя тут гільзы ад патронаў да рэвальвера сістэмы "Наган", таксама характэрнай для НКУС зброі.**

**Але, з другога боку, відаць, паўторнае расследаванне курапацкіх жахаў мае пад сабой пэўны грунт. Вось ўжо працяглы час так званая "грамадская камісія" на чале з былым камандзірам аднаго з партызанскіх атрадаў І. Загараднюком прадпрымае самыя разнастайныя захады, каб абылгаць, скампраметаваць дзейнасць Урадавай камісіі, што займалася расследаваннем забойстваў Курапатах, дэзавуіраваць высновы, да якіх яна прыйшла. Для прапаганды сваіх "ідэй" загараднюкоўцы шырока выкарыстоўваюць самыя разнастайныя сродкі, у тым ліку і прэсу (пераважна камуністычнай накіраванасці), іншыя рупары. Апошні з іх, нарабіўшы столькі гвалту, ангажаваны пэўнымі палітычнымі сіламі — дакументальны фільм Ю. Азаронка "Нянавісць: дзеці хлусні". Ён быў адназначна негатыўна ўспрыняты дэмакратычнай грамадскасцю краіны, і паўтарацца мне тут наўрад ці варта. Адзначу толькі, што некаторыя кадры гэтай кінастужкі (дарэчы, зробленай, на маю думку, на надзіва нізкім прафесійным узроўні) былі абыдзены ўвагай крытыкаў. Я маю на ўвазе кадры, знятыя ў Курапатах, кадры, у якіх члены нагаданай "грамадскай камісіі" каторы ўжо раз робяць спробу абяліць, рэабілітаваць органы НКУС, зняць з іх віну за забойствы ў Курапатах. Метад для гэтага абраны самы пачварны, езуіцкі — у курапацкіх ямах, маўляў, выяўлены астанкі ахвяр не палітычных рэпрэсій, а яўрэяў, дэпартаваных у Беларусь з розных заходнееўрапейскіх краін і расстраляных тут гітлераўцамі. У доказ гэтага самадзейныя "даследчыкі" дэманструюць перад камерай знойдзеныя пры раскопках залатыя пярсцёнкі, ланцужкі, медальёны, іншыя каштоўныя рэчы, якія, маўляў, не маглі належаць нікому, акрамя як пахаваным тут заходнім, так званым гамбургскім яўрэям...**

**Як гэта ні сумна, але я гатовы дапусціць, што на пэўную частку гледачоў гэтыя кадры маглі зрабіць уражанне. Ваша думка на гэты конт, Валерый Міхайлавіч?**

**В. КАМАРОЎСКІ:** — Хачу адразу зазначыць, што мяне, як юрыста, следчага, не цікавяць палітычныя погляды членаў гэтай "грамадскай камісіі", як, дарэчы, палітычныя сімпатыі тых, хто трымаецца процілеглага пункту гледжання на тое, што адбылося ў Курапатах. Па факце знойдзеных тут астанкаў людзей, па ўсіх прызнаках прымусова пазбаўленых жыцця, узбуджана крымінальная справа, якую я і даследую. Або, калі больш дакладна, працягваю даследаваць, бо ў свой час следчыя дзеянні па ёй ужо праводзіліся і вынікі іх леглі ў аснову дакументаў, прынятых тады Урадавай камісіяй. Абставіны склаліся так, што да гісторыі гэтай давялося вярнуцца.

**— Працяг следства ініцыіравала камісія Загараднюка?**

— У 1993 годзе "грамадская камісія" звярнулася ў Вярхоўны Савет з прапановай дэзавуіраваць высновы, да якіх прыйшла Урадавая камісія ў сваім даследаванні курапацкіх падзей. Вярхоўны Савет у адказ даручыў Генеральнаму пракурору рэспублікі В. Шаладонаву вярнуцца да гэтай справы, якую і даручылі весці мне.

Што датычыць вашага пытання наконт уражання, якое маглі зрабіць на гледача кадры з дэманстрацыяй знойдзеных пры раскопках магіл розных каштоўных вырабаў, дык не ведаю, як на каго, а на мяне яны ніякага ўражання не зрабілі. Хоць бы па той прычыне, што ў сваім распараджэнні мы маем нямала такіх, знойдзеных менавіта ў Курапатах, ланцужкоў і медальёнаў, паходжанне і прыналежнасць якіх даўно высветлены.

**— І што ўдалося высветліць?**

— Тое, што належаць дэпартаваным у Мінск заходнееўрапейскім яўрэям яны ніяк не маглі хоць бы таму, што з'яўляюцца атрыбутамі хрысціянскай рэлігіі. Некалькі медальёнаў, знойдзеных пры раскопках, былі з выявай Боскай маткі Чанстахоўскай.

**— Члены камісіі Загараднюка, якіх здымаў Азаронак, з пераможным выглядам гаварылі аб знойдзеных тут, пры эксгумацыі астанкаў, рэчах, — абутку, вопратцы, якія мелі маркіроўку еўрапейскіх фірм, што быццам бы павінна было засведчыць факт расстрэлу ў Курапатах замежных грамадзян.**

— І тут усё тлумачыцца досыць проста. У Польшчы, заходніх абласцях Беларусі, якія да верасня 1939 года ўваходзілі ў яе склад, працавала нямала філіялаў розных еўрапейскіх фірм — Аўстрыі, Бельгіі, Чэхаславакіі, Германіі і г. д., і нічога дзіўнага няма ў тым, што польскія грамадзяне карысталіся іх прадукцыяй.

Што да быццам бы расстраляных тут "гамбургскіх" яўрэяў, дык вось перада мной ляжыць даведка, атрыманая на мой запыт з Ізраіля, з сусветна вядомага Інстытута катастрофы і гераізму еўрапейскага яўрэйства ў гады Другой сусветнай вайны Яд-Вашэм, дзе гаворыцца, што ў архіўных дакументах, якімі валодае інстытут, нідзе не пазначаны населеныя пункты Цна-Ёдкава, Зялёны Луг і ўрочышча Брод у раёне Мінска, як месцы масавых расстрэлаў яўрэяў. Для недасведчаных унясу адно ўдакладненне: Курапаты — не адміністрацыйная назва гэтага месца, слова стала ўжывацца ў публікацыях толькі з 1988 года, пасля таго, як тут былі знойдзены астанкі забітых людзей. Па меркаванні некаторых даследчыкаў, урочышча — месца будучых расстрэлаў — жыхарамі навакольных вёсак называлася Курапатамі з-за кураслепу, якога тут багата расло. Ёсць і іншыя версіі паходжання гэтага слова, як часта бывае ў падобных выпадках. Што датычыць даведкі, дасланай інстытутам Яд-Вашэм, дык у грунтоўнасці яе сумнявацца не даводзіцца — у Яд-Вашэм сабраны самыя дакладныя звесткі пра ўсе выпадкі масавых забойстваў яўрэяў, дзе б яны ні адбываліся і незалежна ад колькасці ахвяр — хай іх нават дзесяць ці пяць чалавек.

**— Дарэчы, на адной з прэс-канферэнцый "грамадскай камісіі", на якой мне давялося прысутнічаць, І. Загараднюк не абышоўся без таго, каб не сказаць пра тых "гамбургскіх" яўрэяў пэўныя, кажучы па-руску, гадости, характарызуючы іх ледзь не як паслугачоў гітлераўцаў, якія выкарыстоўваліся ў якасці перакладчыкаў. На пытанне аднаго з журналістаў, з якой мовы на якую гэтыя яўрэі выкарыстоўваліся ў якасці перакладчыкаў, І. Загараднюк, не міргнуўшы вокам, растлумачыў, што з рускай на нямецкую і наадварот, не падазраючы (а мо і добра ведаючы), што для нямецкіх, як і для іншых заходнееўрапейскіх яўрэяў, руская мова была такой жа чужой і незразумелай, як і для немцаў-акупантаў. Не мог не ведаць "праўдалюбец" Загараднюк, што, па сведчаннях цудам ацалелых вязняў Мінскага гета, лёс трапіўшых сюды гамбургскіх яўрэяў быў яшчэ больш жахлівы, чым лёс яўрэяў мясцовых, якія, хай і далёка не ўсе, мелі магчымасць наладжваць нейкія сувязі з былымі суседзямі, знаёмымі, сябрамі па-за межамі гета, што дало магчымасць дзесяткам з іх уратавацца, апынуцца ў партызанскіх атрадах.**

— Пра тое, што ў курапацкіх ямах знаходзяцца не астанкі заходнееўрапейскіх яўрэяў, сведчаць і іншыя дакументы. Адразу пасля вызвалення Мінска тут працавала Дзяржаўная камісія па выяўленні зверстваў фашысцкіх захопнікаў у адносінах да мірнага, мясцовага насельніцтва, у склад якой уваходзілі следчыя, медыцынскія работнікі, відныя грамадскія дзеячы, у прыватнасці, Кандрат Крапіва і Міхась Лынькоў. Камісія агледзела і вывучыла ўсе мясціны, дзе гітлераўцы знішчалі ваеннапалонных і мірных жыхароў, апытала сотні сведкаў, якія дакладна ведалі, дзе праводзіліся расстрэлы: лагер "Шталаг" N 352 паблізу вёскі Масюкоўшчына, Малы і Вялікі Трасцянец, ператвораны фашыстамі ў лагер смерці. У адным з актаў, падпісаных вядомым партызанскім камандзірам, Героем Савецкага Саюза В. Казловым (дарэчы, будучым старшынёй Прэзідыума Вярхоўнага Савета БССР), запісана: "Тут жа, у лагеры Трасцянец, знішчалася яўрэйскае насельніцтва гарадоў Чэхаславакіі, Аўстрыі, Германіі і Польшчы". І ні слова ў дакументах Дзяржаўнай камісіі пра месца, якое мы зараз называем Курапатамі. Аб тым, што тут расстрэльвалі людзей не фашысты, сведчыць і той факт, што механізм расстрэлаў у НКУС адрозніваўся ад нямецкага і меў свой адметны "почырк". На наш запыт у Нацыянальны архіў Германіі тамашнія эксперты адказалі, што метад пахавання ў Курапатах — не нямецкі. Гітлераўцы звычайна выкопвалі вялікія магілы — да 50—60 метраў у даўжыню, перад "акцыяй" ахвяр распраналі, забіралі каштоўнасці. Калі наперадзе замаячыла ваеннае паражэнне Германіі, нацысты пачалі знішчаць сляды сваіх злачынстваў. Напрыклад, у Мінску была створана каманда 005 "Міттэ" на чале з Максам Крамерам, якая, выкарыстоўваючы ваеннапалонных (якія пасля таксама знішчаліся), пачала раскопваць магілы ахвяр акупантаў і спальваць трупы. Пасля вайны Макс Крамер і яшчэ двое нацыстаў былі асуджаны ў Германіі да пажыццёвага зняволення менавіта за гэтае злачынства.

**— Дарэчы, у доме сваіх знаёмых я трымаў у руках падораную ім кнігу пад назвай "Я здзіўляюся, што дагэтуль яшчэ жывы", якая параўнальна нядаўна была выдадзена ў Германіі. Аўтар яе Паўль Коль, між іншым, немец па нацыянальнасці, задаўся высакароднай мэтай даследаваць усе месцы масавага знішчэння гітлераўцамі мірных жыхароў на тэрыторыі Беларусі — ад Хатыні да Мінскага гета. З чыста нямецкай скрупулёзнасцю ў кнізе прыводзяцца дадзеныя аб адпраўцы і прыбыцці на месца прызначэння транспартаў з дэпартаванымі заходнееўрапейскімі яўрэямі. Сярод месц прызначэння фігуруюць толькі Мінск і Трасцянец.**

— Трэба і мне пацікавіцца гэтай кнігай...

**— У карысць сваёй версіі аб тым, што ў Курапатах знойдзены астанкі не ахвяр палітычных рэпрэсій, члены "грамадскай камісіі" ў тых жа кадрах фільма Азаронка прыводзяць такія аргументы: паводле парадкаў, існаваўшых у савецкіх турмах, у зняволеных адбіралі не толькі каштоўныя рэчы, а і прадметы бытавога ўжытку — прыборы для галення, партсігары, нават расчоскі, г. зн. усё, што было знойдзена ў курапацкіх пахаваннях...**

— Гэтыя "даследчыкі" не ведаюць сутнасці справы. У савецкія часы, ды і зараз, пры вывазе са следчага ізалятара або турмы зняволеным выдаюцца на рукі пад распіску ўсе іх асабістыя рэчы і толькі па прыбыцці на новае месца ўсё гэта адбіраецца зноў.

Наогул, хачу заўважыць, што многія так званыя аргументы, якія прыводзяцца членамі "грамадскай камісіі" і яе прыхільнікамі, часам здольны выклікаць толькі ўсмешку. Неяк у адной з рэспубліканскіх газет быў надрукаваны ўспамін яшчэ аднаго партызанскага камандзіра, які, падтрымліваючы версію аб знішчэнні ў Курапатах менавіта "гамбургскіх" яўрэяў, прыводзіць такі эпізод: неяк, у час сутычкі з немцамі, іх атрад захапіў у палон гітлераўскага афіцэра, у партфелі якога быў знойдзены фотаздымак — на фоне дарожнага ўказальніка з надпісам на нямецкай мове "Курапаты" брыдзе ў акружэнні ўзброеных нямецкіх салдат калона апранутых у цывільнае людзей.

Я сустрэўся з аўтарам і папытаўся ў яго, адкуль узяўся дарожны ўказальнік са словам "Курапаты", калі ні вёскі, ні іншага месца з такой назвай у прыродзе не існавала. Мой субяседнік сумеўся, і пачаў нешта мармытаць аб тым, што пад умоўнай назвай Курапаты (?!) у немцаў праводзілася акцыя па знішчэнні заходнееўрапейскіх яўрэяў, пра гэта яму быццам бы паведаміў той палонны нямецкі афіцэр. Вось так.

**— Дык усё-такі, ці ёсць адказ на пытанне, чые косці ў курапацкіх ямах перабіраюць сёння ў пошуках каштоўнасцей навакольныя марадзёры?**

— Апошнім часам мне давялося папрацаваць у архівах Расійскай Федэрацыі, Польшчы, збіраюся ў камандзіроўку для гэтай мэты ў Германію. Знойдзеныя дакументы, на маю думку, праліваюць святло і на тое, што адбылося ў Курапатах. Як гэта не падасца каму дзіўным, але расстрэлы ў Курапатах па сваім паходжанні вельмі блізкія да расстрэлаў палонных польскіх афіцэраў у 1940 годзе ў Катыні, што на Смаленшчыне. Злачынства, якое вось ужо колькі дзесяцігоддзяў бударажыць сусветную грамадскасць, не кажучы ўжо пра грамадскасць польскую.

**— Ва ўсякім разе іх, відаць, родняць метады, якімі камуністычныя ўлады спрабавалі і спрабуюць замясціць сляды сваіх злачынстваў.**

— Як вы, відаць, ведаеце, пасля вызвалення Смаленшчыны ад нямецкіх акупантаў па загадзе Сталіна была створана Дзяржаўная камісія па факце расстрэлу палонных польскіх афіцэраў у Катыні, бо ў прэсу нашых саюзнікаў па антыгітлераўскай кааліцыі пачалі прасочвацца звесткі аб тым, што катынскі расстрэл — справа рук крамлёўскіх уладароў. Для надання вагі той камісіі на чале яе быў пастаўлены знакаміты хірург, акадэмік Бурдэнка, якому загадана было даказаць, што польскія афіцэры былі ў час акупацыі Смаленшчыны знішчаны гестапа.

**— І даказаў?**

— Дакажаш, калі не хочаш апынуцца на Лубянцы... Што і казаць, на рахунку гітлераўцаў мільёны нявінных ахвяр, але што тычыцца Катыні, дык тут знішчэнне палонных польскіх афіцэраў, як і іншых польскіх грамадзян пасля верасня 1939 года, калі паводле пакта Молатава—Рыбентрапа заходнія вобласці Украіны і Беларусі з-пад польскай юрысдыкцыі перайшлі пад савецкую, праводзілася па прамым указанні "вялікага правадыра ўсіх часоў і народаў". Гэта катэгарычна адмаўлялася афіцыйнымі савецкімі ўладамі ўсе пасляваенныя гады аж да гарбачоўскіх часоў. Яшчэ ў 1989 годзе ЦК КПСС негалосна інструктаваў сродкі масавай інфармацыі "даваць адпор хлусні буржуазнай прапаганды, якая імкнецца ўскласці віну за знішчэнне палякаў на Савецкі Саюз".

Але хаваць праўду станавілася ўсё цяжэй. І хоць польскаму боку на ўсе яго запыты працягвалі ісці стэрэатыпныя адказы, што савецкія кампетэнтныя органы не валодаюць дакументамі, якія б сведчылі аб дачыненні сталінскага кіраўніцтва да падзей у Катыні, станавілася відавочным, што "кампетэнтныя органы" хлусілі — у архівах ЦК КПСС ужо былі знойдзены дакументы, якія ставілі кропкі над "і" ў гэтай жудаснай гісторыі. Пад уздзеяннем сусветнай грамадскасці Гарбачоў, нарэшце, быў вымушаны гэтыя дакументы апублікаваць. Адзін з іх — датаваная сакавіком 1940 года запіска тагачаснага наркома ўнутраных спраў СССР Л. Берыі Сталіну аб тым, што ў лагерах і турмах НКУС заходніх абласцей Украіны і Беларусі знаходзіцца вялікая колькасць "афіцэраў былой польскай арміі, супрацоўнікаў паліцыі, разведкі, членаў контррэвалюцыйных партый, асаднікаў і інш. агульнай колькасцю 21857 чалавек". Яшчэ адзін дакумент — пратакол пасяджэння Палітбюро ЦК ВКП(б) ад 5 сакавіка 1940 года, на якім была разгледжана запіска Берыі і прынята па ёй адпаведнае рашэнне: "Прапанаваць НКУС СССР справы аб 14707 былых польскіх афіцэрах, чыноўніках, памешчыках, паліцэйскіх, асадніках, што знаходзяцца ў лагерах для ваеннапалонных, а таксама справы арыштаваных, якія знаходзяцца ў турмах заходніх абласцей Украіны і Беларусі ў колькасці 11 тысяч чалавек, разгледзець у асаблівым парадку з прымяненнем да іх вышэйшай меры пакарання — расстрэлу".

**— І разгледзець, і расстраляць... Дык навошта разглядаць, г. зн. разбірацца, калі прысуд — расстрэл — вынесены загадзя? Якая ўсё-такі бандыцкая логіка!**

— Далей у тым рашэнні Палітбюро прапанавалася разгляд спраў правесці без выклікаў арыштаваных і без прад'яўлення ім абвінавачвання...

Дарэчы, нядаўна па першым канале маскоўскага тэлебачання быў паказаны дакументальны фільм скандальна вядомага Аляксандра Няўзорава, прысвечаны катынскім падзеям, дзе была зроблена спроба падвергнуць сумненню сапраўднасць нагаданых вышэй дакументаў, якія, маўляў, сфальсіфікаваны.

**— Я перапыню вас, Валерый Міхайлавіч... Вы нагадалі адну цікавую дэталь, якая пэўным чынам характарызуе і Азаронка. У адным са сваіх нядаўніх радыёінтэрв'ю (а інтэрв'ю ў гэтай раптоўна выплыўшай "славутасці" цяпер бяруць многія сродкі масавай інфармацыі) ён з вялікім піетэтам адазваўся аб нагаданым вамі Няўзораве: "Як гаварыў мой калега Аляксандр Глебавіч Няўзораў"... Скажы мне, хто твой сябра... А "сябра" гэта адзін з самых зацятых сёння расійскіх ура-патрыётаў і шавіністаў. Варта ўспомніць яго тэлефільм "Нашы" пра віленскія падзеі, ды і іншыя працы і выказванні...**

*(Працяг на стар. 12)*

канфармізм. Усё гэта перамолваецца ў жорнах імклівай дэсакралізацыі, дарэшты прафануецца ды ператвараецца ў агульнавядомае сярэднеарыфметычнае. Колішнія камуністы перафарбаваліся ў дэмакратаў, навучыліся жагнацца й свечку трымаць, а сацрэалісты апранулі хітоны пісьменнікаў хрысціянскага кшталту. Ды гэты маскарад фарысеяў нікога ўжо не кранае, не цешыць, нават не здзіўляе. Бо, як пісаў дзядуля Крылоў, "воз и ныне там".

Погляды А.Федарэнкі сапраўды здзіўляюць сваёй безапеляцыйнасцю й кандовасцю думкі. Ствараецца ўражанне, што аўтар дзвюх кніг прозы і шматлікіх газетна-часопісных публікацый не арыентуецца ў сучасным літаратурным працэсе, свядома скажае і прымітывізуе агульнавядомае. Яму дужа не падабаецца інтэлектуалізм "новых", іх тэарэтычныя напрацоўкі, бо ўсё гэта, маўляў, незразумела шырокаму колу чытачоў. Нагадаю, што канферэнцыя "Альтэрнатыўная літаратура. Паасобныя намаганні да агульнае мэты. Новыя імёны новай Усходняй Еўропы" мела статут навуковай, а таму матэрыялы канферэнцыі, змешчаныя ў газеце "Культура" (N 4, 25 студзеня 1995 г.; N 17, 26 красавіка 1995 г.), — не забаўляльная белетрыстыка. Крытэрый "не падабаецца" — "падабаецца" тут не спрацоўвае. Ён проста недарэчны, як прыдуманая спадаром Федарэнкам "ЛІТбарацьба хрысціянства з нехрысціянствам, барацьба зразумелага ўсім рэалізму з "шызарэалізмам".

28 красавіка 1995 г. "ЛіМ" надрукаваў водгукі чытачоў на артыкул А. Федарэнкі "Новыя" і "Старыя". Згадваецца таксама рэцэнзія Андраніка, якая з'явілася ў "Нашай Ніве" (N 2 г.г.). Прынцыповай гутаркі, на жаль, не атрымалася, бо ніхто, бадай, акрамя Яўгена Бяласіна, не наблізіўся да сутнасці праблемы. Зноў-такі, барацьба і змаганне тут ні пры чым, як, зрэшты, і ўзаемаадносіны "бацькоў" і "дзяцей". Палеміку трэба разглядаць у іншай плоскасці. Усё залежыць ад разумення задач, функцый і прызначэння не толькі самой літаратуры, крытыкі і літаратуразнаўства, але і ад некаторых вонкавых фактараў, якія ўплываюць на развіццё мастацтва, ад ідэйна-эстэтычнай пазіцыі аўтара, як суб'екта агульнага мастацкага працэсу. Гэта, вядома, усведамляе і А.Федарэнка. Адно шкада, што ён часта многія складаныя рэчы спрашчае, зводзіць іх значэнне да нуля, а ў выніку атрымліваецца прафанацыя дэфініцый. У рэшце рэшт, прыхільнік "чыстага аб'ектыўнага рэалізму" "выносіць вердыкт" сваім апанентам: "...пры такім разуменні імі літаратуры ў іх няма і быць не можа нічога моцнага, жывога — хто б ні вадзіў іхнімі рукамі".

А як жа разумее літаратуру спадар Федарэнка?

Зазірнём у "ЛіМ" двухгадовай даўніны (за 9 красавіка 1993 г.), дзе была змешчана гутарка пісьменніка Андрэя Федарэнкі і журналіста Юрася Залоскі пад назвай "Ад жалю і любові лютай..." Там ідэйная пазіцыя першага як на далоні. Вось красамоўны прыклад, які шмат пра што сведчыць. "Тое, што ў нас ёсць, — гаворыць А.Федарэнка, — я падзяляю на літаратуру добрую і на кепскую. Добрая — гэта тая, што падабаецца як мага большаму колу людзей, як правіла, сюжэтная, па якой можна зняць фільм, паставіць спектакль, якая перадае нацыянальны дух, пэўныя нацыянальныя асаблівасці, не банальная, улічвае, па магчымасці, лепшыя здбыткі іншых літаратур, каб не паўтараць іх, якую зможа чытаць і інжынер, і селянін, і пісьменнік — і да т.п. Кепская — гэта літаратура бессюжэтная, касмапалітычная, зразумелая толькі маленькаму колу аднадумцаў..."

Такім чынам, можна падумаць, што спадар Федарэнка — прыхільнік маскультуры. Але ён лічыць, што "беларускія чытацкія масы" адсутнічаюць. Дык навошта імкнуцца спадабацца людзям розных прафесій, загадзя ведаючы, што яны цябе не прачытаюць? Густы шырокіх чытацкіх мас скіраваны, будзем шчырымі, убок далёка не лепшых узораў прыгожага пісьменства. Дастаткова паглядзець на паліцы кнігарняў, параўнаць наклады і пераканацца, які тавар найбольш ходкі. Купляюць якраз тое, па чым здымаюць фільмы з "крутымі" сюжэтамі. Няма, праўда, у гэтых кнігах акрэсленых нацыянальных асаблівасцей, затое змогуць іх прачытаць і рабочы, і калгаснік. Няўжо ўсё гэта літаратура добрая? Пытанне, мяркую, не патрабуе адказу.

А як жа быць з "літаратурай бессюжэтнай, касмапалітычнай, зразумелай толькі маленькаму колу аднадумцаў"? Няўжо яна сапраўды такая кепская, таму што элітарная? Дарэчы, хваля змагання з касмапалітызмам даўным-даўно разбілася аб скалы агульначалавечых каштоўнасцей...

Увогуле, падзел літаратуры на масавую і элітарную не адлюстроўвае сутнасці рэчаў, ён непаўнацэнны. Нярэдка творы элітарных пісьменнікаў (і сюжэтныя, і бессюжэтныя) праз нейкі час раптоўна здабываюць папулярнасць, інтэнсіўна перакладаюцца на шматлікія мовы свету ды выдаюцца мільённымі накладамі (Франц Кафка, Вірджынія Вульф, Джэймс Джойс, Наталі Сарот, Ален Роб-Грые, Вітальд Гамбровіч, Бруна Шульц і г.д.). І нікому з літаратуразнаўцаў не прыходзіць у галаву лічыць згаданых аўтараў прадстаўнікамі масавай літаратуры. Тут варта паразважаць не пра масавасць і элітарнасць, а якраз пра прызначэнне той ці іншай мастацкай з'явы, ці, калі канкрэтызаваць, тых ці іншых літаратурных жанраў.

У XVII—XVIII стагоддзях, як вядома, былі жанры высокія (ода, гераічная паэма, трагедыя) і нізкія (сатыра, камедыя, фарс), існавала жорсткая рэгламентаванасць і нарматыўнасць. Ужо на працягу XIX стагоддзя жанравыя межы размываюцца, паўстаюць новыя творы, якія сінтэзуюць розныя жанры, спалучаюць у сабе разнастайныя мастацкія прыёмы і тэхнікі пісьма. Зазначым, што сёння мы мусім гаварыць не толькі пра жанравы падзел і прызначэнне "высокіх" ці "нізкіх" жанраў, пра сферы ўжытку і функцыянавання іх у грамадстве. Грамадства ў XX ст. стала сапраўды масавым. Тым не менш падзел, градацыя мастацкіх твораў — засталіся. Варта вылучыць тут два ўзроўні: узровень інтэлектуальны і ўзровень трывіяльны, і карціна агульнага літаратурна-мастацкага працэсу становіцца больш-менш зразумелай.

Дык вось, творчасць Андрэя Федарэнкі, як і ягоныя публіцыстычныя выказванні, трэба разглядаць у абсягу трывіяльнай літаратуры, якая мае на мэце падкупляць сярэднеарыфметычнага незаангажаванага чытача сваёй "шчырасцю, яснасцю і прастатой". Зноў мушу абмовіцца, што гэтыя якасці нельга атаясамліваць, як гэта робіць спадар Федарэнка, з хрысціянскай літаратурай. Апошняя з рэалізмам не мае нічога агульнага. Міфалогія выключае "тыповыя характары ў тыповых абставінах". Дый адназначнасці ў часы постмадэрнізму быць не можа.

Вось як на гэты конт выказваецца вядомы расейскі пісьменнік-эмігрант Барыс Хазанаў: "Мы жывем, як правіла, у вялікіх гарадах, дзе жыццё настолькі ўскладнёна ў параўнанні з жыццём, скажам, у дзевятнаццатым стагоддзі ці нават у пачатку дваццатага, што той шчаслівай адназначнасці, яснасці, прастаты і празрыстасці апавядання, якая была ў класікі, ужо не можа быць. Мы жывём зусім не ў паэтычным грамадстве. Літаратура часам, быццам у адчаі ад гэтага стракатага, складанага і хаатычнага жыцця, сама імкнецца ўзнавіць яго ў форме хаосу. Задача пісьменніка калі не ахапіць гэта жыццё, што невыканальна, дык хаця б паспрабаваць унесці нейкі парадак. Гэтага можна дасягнуць... з дапамогай роздуму, фантастыкі, гратэску, з дапамогаю міфалогіі..." ("Литературная газета", 19.04.95).

Рэцэнзія Андраніка на кнігу А.Федарэнкі "Смута" ў мяне не выклікала асаблівых эмоцый. І не таму, што яна дужа зласлівая і суб'ектыўная, а хутчэй таму, што проста не тлумачыць сутнасці з'явы, трапляючы таксама, як і публіцыстыка празаіка Федарэнкі, у трывіяльны абсяг. Уважліва прачытаўшы "Смуту", я не знайшоў там шмат "кіслага і брыдкага". А.Федарэнка не культывуе турпізм (мастацкі накірунак, які паэтызуе брыдоту) і не згушчае фарбы, не ачарняе нашу і без таго змрочную рэчаіснасць. Галоўная асаблівасць яго твораў — ардынарнасць, уласцівая менавіта трывіяльнай літаратуры. Але і такая літаратура мае права на існаванне і патрабуе таленту. Талент Федарэнкі-белетрыста відавочны. А вось "прадмова-пасляслоўе" да кнігі "Смута" і публіцыстычныя выказванні моцна псуюць уражанне, бо ад іх патыхае спарахнелай савецчынай. Аўтару трэба як мага хутчэй пазбавіцца тэндэнцыйнасці і спрашчэнства, каб канчаткова не патануць у абсягу пошлай трывіяльнасці.

**Юры ГУМЯНЮК,**
**каардынатар Таварыства вольных літаратараў**

*г.Гродна*

**АД РЭДАКЦЫІ.**

Ю. Гумянюк не толькі аспрэчвае пэўныя моманты нататак А. Федарэнкі, але і адмаўляе саму з'яву — наяўнасць процістаяння літаратурных плыняў і пакаленняў. Калі б яго сапраўды не было, то мы б мелі адзінства ў нацыянальных шэрагах, чаго ўсё ж — на жаль — не назіраецца. Значыць, А. Федарэнка ў галоўным не памыляецца...

І яшчэ адно не дазваляе лічыць палемічны артыкул маладога паэта абагульняючым у нашай кароткай дыскусіі: адчуваецца, што аўтар закрануты асабіста, а гэта перашкаджае яму быць дастаткова аб'ектыўным і карэктным.

---

лас падае", без багдановічаўскага "у бубны дахаў вецер б'е", коласаўскага апісання лесу, які стаіць каля хаты лесніка "гожаю падковай". Беспрадметнай лірыкі ўвогуле не можа быць, бо прадметнасць, дэталёвасць, прыналежнасць да драбніц жыцця чалавека і прыроды — той рычаг, дзякуючы якому паэт можа адкрыць сваё, адрознае ад напісанага іншымі.

І ў гады вайны Броўка-паэт ідзе дарогай адмаўлення (бяда яго — у няроўнасці, неаднаўзроўневасці ягонай спадчыны, а таму заўважым — не заўсёды, далёка не ў кожным творы) агульшчыны, рытарызму, далучэння сэрцам і розумам да праўды малых, някідкіх у дзеяннях і ўчынках людзей, рэальнага, а не надрэальнага дзеяння. Канкрэтызацыя жыцця пры дапамозе мастацкіх прыёмаў і вобразаў адбываецца ў гэты час перш за ўсё ў яго баладах, "Паэме пра Смалячкова", а таксама ў паэмах "Ясны кут", "Паланянка" і "Хлеб", якая датуецца 1946-м пасляваенным годам.

Балючыя, шчымлівыя, глыбока прачулыя сюжэты Броўкавых баладаў і паэм... І пра Надзю-Надзейку, закатаваную фашыстамі, і пра спаленую вёску, і пра першыя пасляваенныя барозны і жмені зёрнаў, кінутыя ў іх рукамі сейбіта. І пра слёзы герояў-франтавікоў, якія застаюць папялішчы на месцы былых родных хат.

Гнуткія, змястоўна напоўненыя радкі не прыдуманых, а з жыцця спісаных твораў. Дзякуючы гэтым радкам многае можна даравапаэту, на многае паглядзець з пазіцыі аптымізму ды чыста чалавечай добразычлівасці.

Зазначым адразу, што сучасным літаратуразнаўствам (не гаворачы ўжо пра ранейшае) увогуле недаацэнены самыя першыя два-тры пасляваенныя гады ў літаратуры. Менавіта ў гэты час прагучалі філасофска-значныя, прарочыя творы Максіма Танка, што пазней увойдуць у зборнік "Каб ведалі", — творы-рэквіем па загінуўшых, згарэўшых, творы-чаканне вяртання сыноў з неабсяжных светавых прастораў у родны дом, не менш гуманістычныя творы Аркадзя Куляшова пра высокую цану перамогі, пра невылечны след, пакінуты вайной у чалавечых сэрцах.

У канцы вайны і ў пачатку пасляваеннага аднаўленчага перыяду з'яўляюцца творы Янкі Брыля "Адзін дзень", Аляксея Кулакоўскага "Сад", у якіх дамінуе ідэя міласэрнасці. І гэта далёка не ўвесь пералік мастацка значнага, створанага літаральна за тры-чатыры гады.

Пятрусь Броўка ў гэты светлы літаратурны струмень упісаўся годна і хораша сваімі таленавітымі паэмамі-споведзямі, перасыпанымі блёсткамі тугіх і яркіх радкоў:

**Загудзела, як трэба,**
**Жыта скрозь галасамі,**
**Заглядзелася ў неба**
**Да аблок каласамі.**

*("Дождж")*

Вядома, у пасляваеннае дзесяцігоддзе і пазней з'явіцца многа апісальных, нават натуралістычных твораў: спрацуе так званая "тэорыя бесканфліктнасці", а працей кажучы — звычайная кан'юнктура — лягчэй пісаць пра тое, пра што загадваюць, што бачыш, не напружваючы памяць, амаль не думаючы, ведаючы, што рыторыка і агульшчына пройдзе цэнзуру, пісаць так, як пішуць іншыя (а чым я лепшы?).

Пісаў творы шэрыя, аднатанальныя, расцягнутыя не на адну старонку — паэмы "Родныя берагі", "Добры друг", "Чырвон-Гарадок", партрэтныя замалёўкі пра пчаляроў, плытагонаў, леснікоў, людзей розных прафесій і Пятрусь Броўка. Разменьваў талент на дробнае, ды ўжо не галоўнае, у якім, праз якое — увесь свет. Чытаем сёння радкі:

**Марыць Дарота**
**Пабольшыць удой,**
**Каця — аб новай**
**Пшаніцы сваёй, —**

і не можам паверыць, што гэта можна было не толькі пісаць, але і друкаваць, што гэта выдавалася за сапраўдную літаратуру.

У пачатку 60-х гадоў на рускай, а затым — на беларускай мове выдаецца цэнтральная, "галоўная" кніга паэзіі Петруся Броўкі "А дні ідуць", якую складаюць вершы роздумна-аналітычнага плана. Мастак у многіх творах сваіх пазбягае напышлівай рыторыкі, акцэнтуе ўвагу чытача на так званых вечных праблемах чалавечага існавання. Філасафічны сам па сабе і загаловак кнігі, закліканы засведчыць рухомасць і зменлівасць рэчаіснасці, дыялектычнасць працэсаў, што адбываюцца на зямлі, у жыцці прыроды і чалавека. Пятрусь Броўка ідзе тут у рэчышчы той літаратуры, якая сур'ёзней і глыбей паставілася да жыццепрацэсу, вылучыла наперад агульназначныя праблемы, занялася прагназаваннем не надуманай, рамантызаванай, а, паводле навуковых адкрыццяў, рэальнай, дасягальнай будучыні. Позні Броўка ўвесь у пошуку вечных ісцін, дабра і справядлівасці, у заглядванні ў першыя паслярэвалюцыйныя гады — эпоху камісараў, у сцвярджэннях, што "усё пачынаецца з малога".

У многіх творах паэта канца 50—70-ых гадоў яднаюцца дапытлівая думка і трапяткое пачуццё. Таму паэту хочацца верыць, таму многія вершы прываблiваюць сваёй гарманічнай цэласнасцю, стройнасцю, строгасцю. Хіба нельга, напрыклад, не даверыцца вось гэтым светлым і радасна-ўзнёслым і разам з тым надзвычай пераканальным радкам:

**Наперад — ліст пад купал сіні,**
**Наперад крыльцы мчаць птушанят,**
**Наперад — сэрца, як той гадзіннік...**
**Нішто не мае хады назад.**

*("Наперад — промень праз морак ранняя...")*

Уражвае і сёння паэма "Голас сэрца"... Падобныя творы можна лічыць неўміручымі: яны ўздзейнічаюць на чытача сваёй непадробнай, натуральнай, якая вынікае з асабіста пережытага, праўдзівасцю. Не было б яго, гэтага асабіста пережытага, наўрад ці адбыўся б такі твор — аўтарская фантазія не здолела б стварыць і запамінальныя сцэны, чытаючы якія адчуваеш, як па скуры праходзіць мароз (апісанне хатніх рэчаў, што хаваюць у сабе цяпло і святло усмешкі, ласкі матчыных рук, "асвенцымскія сцэны", поўныя падрабязнасцей, якія перарастаюць самі сябе і ператвараюцца ў сімвалы зла, чалавеканенавісніцтва), і сагрэць іх прачуласцю, асабістасцю, і падпарадкаваць свядомасць чытача ўстаноўцы — выклікаць міласэрнасць да ахвяраў вайны і фашызму, сплаціць доўг усім маці зямлі — пакутніцам за праўду, за дабро, за жыццё.

Паэма "Голас сэрца" выплеснулася з аўтарскага сэрца шырокім нястрымным пачуццём і разбурыла стрымліваючыя бар'еры правільнасці мыслення, укладання яго ў рамкі адыёзнага патрыятызму. Паэт ухваляе маці, шкадуе маці, моліцца на чалавека, які яго нарадзіў і выхаваў і якога бязлітасна знішчылі чужынцы, што прыйшлі ў наш дом. Рытарычныя ж застаўкі пра мір ва ўсім свеце павісаюць у паветры, уяўляюцца неабавязковымі. Каб паэтам была напісана толькі адна гэтая паэма, спадчыну яго трэба было б ведаць, вывучаць, высока ацэньваць.

Мы пісалі пра тое, што Пятрусь Броўка — няроўны паэт. Што ж мы ў гэтае паняцце ўкладваем? Найперш — неаднароднасць напісанага; побач з таленавітымі, цікавымі творамі стаяць творы-аднадзёнкі, апісальныя рэпартажы, публіцыстычныя рапарты, водгукі на тэмы дня. Падчас нават ствараецца ўражанне, што паэт сам не ў стане ацаніць вартасць і значнасць напісанага, што ў яго губляецца пачуццё адказнасці за слова, прытупляецца эстэтычны зрок. Падобнае ў яго спадчыне абумоўлена шэрагам прычын, сярод якіх не на апошнім месцы — уздзеянне кан'юнктуры таго ці іншага часу, партыйна-дзяржаўных рэгламентацый ды ўстановак. Нічым іншым нельга растлумачыць з'яўленне такіх, напрыклад, паэтавых вершаў, як

**Мы заўжды, партыя, з табою,**
**І больш няма для нас жыцця!**

*("Адзінства")*

Прымітыўныя па думцы, яны аказваюцца прымітыўнымі і па спосабах і прыёмах яе выражэння (афармлення): паўтараюцца адны і тыя ж тропы, дамінуе ямбічны вершаваны памер, інтанацыя пераважае аднатонная, аднастайная, знікаюць трапныя мастацкія дэталі, характэрныя ў пэўнай ступені яшчэ даваеннай Броўкавай лірыцы. Гладкапіс замяньвае ў абсалютнай большасці мастацкае пісьмо ў публіцыстычна-патрыятычнай паэзіі мастака. Вось "узор" такога пісьма з вершаў апошніх гадоў:

**А я чаго чакаю?**
**Ды шмат. Я знаю сам!**

*("Чаканне")*

Не прынесла славы Петрусю Броўку мастацкая проза, што застаецца ў памяці чытача асобнымі лірычнымі замалёўкамі прыроды, спробамі стварэння характараў апантаных высакароднымі ідэямі людзей. Канула ў Лету яго "вытворчая паэзія" канца 20—30-х гадоў. Сын свайго супярэчлівага часу, Пятрусь Броўка не пазбег яго недахопаў, яго не толькі станоўчага ўплыву. Гэты час, пачаўшыся з радаснай запеўкі-ўстаноўкі на пабудову гарманічнага грамадства, дэзарыентаваў мастакоў слова, асляпіў іх сваімі гуманістычнымі лозунгамі, а пасля паставіў перад фактам невыканання асноўных праграмных палажэнняў Кастрычніцкай рэвалюцыі. Час паказаў сваю двурушнасць. І хто ведае, якой была б у далейшым паэзія Броўкі, калі б дажыў ён да гарбачоўскай перабудовы і да абмежаванага (калі меркаваць па сённяшніх падзеях) у часе перыяду новага нацыянальнага адраджэння. Можа, спяваў бы іншыя песні, узняўся б на хвалю пераацэнкі раней зробленага, як Сяргей Грахоўскі, Алесь Звонак, Максім Танк ды іншыя яго равеснікі? Хто яго ведае.

Паэт пакінуў нам ёмісты, афарыстычны запавет — "Нішто не мае хады назад". Дык будзем кіравацца ім у жыцці. Будзем верыць, як верыў ён, у канчатковую перамогу Дабра на Зямлі, якая сёння, на жаль, яшчэ мала "для шчасця абсталяваная".

**Мікола МІШЧАНЧУК**

## У ГОНАР КУЗЬМЫ ЧОРНАГА



**95-годдзе з дня нараджэння Кузьмы Чорнага адзначана на радзіме пісьменніка — у вёсцы Цімкавічы Капыльскага раёна. У літаратурным свяце прынялі ўдзел прадстаўнікі Міністэрства культуры і друку РБ, супрацоўнікі Дзяржаўнага музея гісторыі беларускай літаратуры, пісьменнікі, навукоўцы, землякі і родныя К.Чорнага. З цікавасцю слухалі прысутныя выступленні М.Тычыны, Т.Дасаевай, Л.Хадкевіча, М.Скоблы, А.Бельскага і інш. Успамінамі аб сустрэчах з выдатным празаікам падзяліўся П.Праднікаў. Ва ўрачыстай атмасферы была адкрыта дошка-знак "Музей Кузьмы Чорнага" з рэльефам пісьменніка. Аўтар яе — Э.Астаф'еў. Пранікнёна і шчыра гаварыў унук пісьменніка Мікола Раманоўскі. Госці наведалі музей К.Чорнага, новая экспазіцыя якога была адчынена ў кастрычніку мінулага года, і школу, дзе канцэртам майстроў мастацкай самадзейнасці Капыльскага раёна завяршылася свята.**

**Л. М.**

*Фота Т. САРАКАЧ*

## "СПАДЧЫНА", N 2

**Да 50-ых угодкаў заканчэння II Сусветнай вайны прымеркавана падборка фотаматэрыялаў, а таксама ўспаміны Я. Крамко "Патрыятычнае падполле ў панёманскіх лясах". У раздзеле "Адлюстраванні" змешчаны такія матэрыялы, як "Яшчэ да пытання этнічнай прыналежнасці старажытных ліцвінаў" П. Урбана, "Таямніцы старажытнага Нясвіжа" Т. Габрусь, "Выданні Івана Фёдарава ў зборы Смаленскага музея" Г. Глазырынай, "Рукамый Астрожскага" Л. Жураўлёвай. У раздзеле "Мемуары" — працяг "Дыярыуша князя Міхала Казіміра Радзівіла" ў перакладзе В. Арэшкі, "Успаміны пра Віленскі музей" М. Пецюкевіча, чарговыя старонкі "Інвентарнай кнігі Музея імя І. Луцкевіча..." Змястоўны і раздзел "Інтэрпрэтацыі": "Літоўскі сепаратызм" канца XVI ст. Ю. Шаўцова", "Тышкевіцкі музей старажытнасцяў: малюнкі спусташэння" Н. Гулак, "Да этнічнай гісторыі Заходняга Палесся" Я. Насыткі, "З нядаўняе гісторыі Нясвіжскага замка" Т. і У. Пярвышыных, "Срэбная страла ў чырвоным полі" У. Крукоўскага, "Сіндыкат Сапегі для Еўропы і Азіі на Беларусі" У. Ляхоўскага. Прадстаўлены раздзелы "Мова", "Архівістыка", "Літаратурныя помнікі" і іншыя.**

## ГАНАРАР У ФОНД "ДЗЕЦЯМ ЧАРНОБЫЛЯ"

**пераведзены за кнігу казак Уладзіміра Караткевіча "Чортаў скарб", выпушчаную выдавецтвам "Юнацтва". Змест зборніка склалі нямногія творы выдатнага нацыянальнага пісьменніка, напісаныя спецыяльна для маленькіх. Са старонак казак У. Караткевіч паўстае літаратарам, які добра ведае псіхалогію дзяцей, умее расказваць ім гісторыі не толькі займальныя, але і такія, што маюць значны выхаваўчы сэнс. Дарэчы, гэтыя творы У. Караткевіча даўно карыстаюцца належным попытам. Шкада толькі, што іх далёка не заўсёды можна знайсці ў бібліятэках. Дарэчы, гэтае выданне "Юнацтва" і выпусціла па просьбе кнігагандлёвых арганізацый і бібліятэк Рэспублікі Беларусь.**

## ЛІТАРАТУРНЫ БАМ

**25 чэрвеня ў парку імя Горкага адбылася літаратурная імпрэза "Фарматворы Бум-Бам-Літа", у якой прынялі ўдзел бум-бам-літаўцы: Серж Мінскевіч, Алесь Туровіч, Зміцер Вішнёў, Юрась Барысевіч, Сева Гарачка, Ілля Сін, Зміцер Дзядзенка, Міхась Башура, Слава Корбут.**

**Выступ маладых літаратараў атрымаўся даволі незвычайны, гэтаму спрыялі арыгінальная вопратка і алюмініевы тазік з надпісам "Бум-Бам", у які біў Ілля Сін, запрашаючы кожны раз новага выступоўца. У канцы імпрэзы паэты праспявалі гімн Бум-Бам-Літа.**

**З. В.**

# ДВА ПАЭТЫ

## ТАВАРЫСКІЯ НАТАТКІ

Жывуць адзін побач з другім два паэты аднолькавага веку, блізкага светаўспрымання (усе паэты — браты), але пішуць розныя па стылі вершы (бо так атрымліваецца нават у блізнятаў). Розная глеба, хоць зямля адна — берасцейская.

У мяне тры дзядзькі, і кожны, як вып'е, адметны. Адзін дзейсны, лезе калі не ў бойку, то ў "дзела", у вір. Другі — звяглівы: сядзе пад ліпай і сварыцца. Трэці шчыры: спявае "Ручнікі". Калі быць дакладным — дык спяваў раней, калі жытка больш заможная была.

Відаць, па-рознаму людзі рэагуюць і на тэксты, прынамсі, на добрыя тэксты. Я дык адразу адчуваю сверб напісаць тэкст у адказ. Нешта ў генах з XIX стагоддзя працуе, ці што — гэтак цягне на эпісталярны жанр.

З таго часу, як трапіў мне на вочы зборнік вершаў Алеся Каско "Набліжэнне", не прамінаю спыніцца на яго радках, дзе б іх ні сустрэў. Парадаваўся, калі выйшла новая кніжка "Час прысутнасці". Прачытаў першыя вершы зборніка і пазнаў гэты пэўны, выразны стыль, зразумелую, філасафічна-ёмкую і разам з тым лірычную манеру, якая выклікае двойснае жаданне: хутчэй чытаць яшчэ і яшчэ, але і вярнуцца, перачытаць і той радок і гэты, яшчэ раз упэўніцца: усё так.

Якія радкі! "Зоркамі асфальт абсыпаны..." Адразу пазнаеш — восень! Які эфект прысутнасці, калі вецер нясе зорку-ліст на шыбу, і той ззяе ў электрычным святле. І хто б апісаў лёс цэлага пакалення (прынамсі, майго) некалькімі радкамі:

**З гадоў былых,**
**з цвілых затокаў часу**
**ледзь-ледзь жывыя**
**выплываем мы,**
**як рыбіны.**
**Пад намі жвір блішчасты,**
**святло над намі...**

Такую аналогію чалавека як часціны прыроды, па-мойму, стварыць немагчыма, седзячы толькі ў гарадскіх мурах, не спазнаўшы лёс гэтай зямлі, лёс беларускага абшару і прасцягу... Да таго ж, ставіш планку. А ці не занізка? І наогул: ці сувымерныя паэты ў прынцыпе? Хто вышэй: Франсуа Війён з яго парай вершаў ці Рэмбо, у якога набярэцца на том? Ці Паўлюк Багрым з яго адным? Для мяне дык Багрым, бо ў яго вершы лёс беларуса ўвасоблены, а я беларус; годныя вершы люблю, аднак аддаю перавагу годным вершам, якія да таго, што годныя, шчэ граюць на струне радзімы. Як вось гэты:

**Залапаталі, ажно зазвінелі**
**лістота прысадаў**
**і лісце капусты,**
**забулькатала вада пад бульбоўнікам,**
**залапушыўся гарбузнік,**
**заварушыліся**
**дагэтуль самлелыя агуркі.**

*("Неба")*

Кіно, дый годзе! Здымка рапідам. Наколькі словы ствараюць эфект прысутнасці!

За гэта даруеш нават фіялкі замест браткаў у адным з вершаў...

Шаноўны аўтар! Чытаючы тваю філасофскую лірыку, асабліва заўважаеш, што беларуская мова яшчэ маладая, не закасцянелая, дапускае шмат ступеняў свабоды ў словаўтварэнні, сінаніміі, — як гэта характэрна для Купалы, Коласа, у меншай меры — для М.Багдановіча. Прычынай таму, відаць, тое, што аўтар вырас на глебе жывой мовы і сілкуецца як з моўнай нормы, так і з дыялектаў і гаворак.

Але тут я чытаю верш "Валуны" і спатыкаюся. Адчуваю: нешта не тое! Вобраз ёсць: абываццелі "ляжаць на пляжы", а Ён (асоба!) падышоў да краю абрыву і... адступіў. "Глупые пингвины" разгневаны і абражаны: парушаны статус-кво! А паэт піша: маўляў, не хапіла смеласці. А каб ступіў, дык што — абудзіў бы тых, хто ляжыць, бы валуны? Што ж, Хрыстос абудзіў коштам свайго жыцця, але сітуацыя верша цьмяная. Дзеля чаго?

Валуны валунамі, а мне дык здаліся больш дакладнымі і адраснымі вызначэнні-дыягназы "homo televisionis" ды "мутант". Вось каб яшчэ тыя, пра каго, ды чыталі вершы! Пазналі б — жахнуліся! Але паўбяды: мо дзеці іхнія прачытаюць і займеюць шанц не быць такімі.

Непакоіць, варушыць душу наступны верш... Відаць — пісаны ў неблагім полі духоўнай энергіі. Згінула ў буру таполя — стаў на яе месцы ясень... А вось наш медыум выклікаў Дзядоў. Пабыў ты з імі — і ўжо душа перапоўненая, перасычаная; мільгае думка: до, больш не асілю... Але вока ўжо ўхапіла:

**Што век — са свечку, не тужыце:**
**узрост ці выстудзіць душу?**
**Вы хоць агарка не тушыце,**
**яго і сам не патушу.**

Другі цыкл зборніка быў роўны — не меў пікаў і спадаў першага, а ў трэцім ("Я цябе клікаў...") высвятлілася прычына спадаў і кіданняў шаноўнага аўтара. Што ж, ён яе не хаваў — значыць, і адказ мусіць быць шчырым. І я пішу ў сваёй эпістале: такія вершы пісаў шмат хто — трывіяльныя вершы пра каханне. Але калі яно забірае тонус душы, забівае яе, замест таго каб даць лёту — чаго яно тады вартае? Хіба толькі таго, каб быць замененым на другое. Да Гётэ лепшыя вершы прыйшлі ў семдзесят, а ёй было дзевятнаццаць.

Так што, дарагі Алесь, кніжку я далей з-за такіх калізіяў перастаў успрымаць адэкватна і магу што-небудзь не тое напісаць. Як і пра паэму "Апазнанне".

Так вось нечакана мушу перайсці да асобы паэта, які ў маім успрыманні чамусьці заўсёды стаіць побач з Алесем Каско. Цікавіць ён мяне як аўтар вершаў эпічнага плана, якія не стамляешся чытаць. Перада мной новы зборнік Міколы Пракаповіча — "Мяжа надзеі". Безумоўна, назоў дае ключ да разумення: для нас, беларусаў, напрыканцы XX стагоддзя паўстала мяжа, за якой, калі не даб'ёмся сваёй Беларусі, — іншы, небеларускі космас. Горкая кніжка, цяжкая, хоць і невялікая. Узяўшы ў руку, нават лёгкая, — але зацяжкая шмат для каго, непад'ёмная, і гаварыць пра яе можна толькі таму, хто прыняў адзіна магчымае рашэнне. Інакш будзеш прытворшчыкам: яна не пакідае выбару.

**Яшчэ ты жывеш па хатах...**
**Але прыязджаюць дзеці —**
**і туліцца вінавата**
**мова ў хлявы і клеці.**
**Куды ёй у інстытуты! —**
**Хоць часы цяпер не тыя.**
**Апрануты і абуты**
**ў замежнае маладыя.**

Ад асобы ў гушчыні падзей цярэбіць шлях паэт у першым цыкле зборніка "Абрысы". У наступным цыкле — "Галасы берасцейскага дзядзінца" — шматпланавыя, эпічныя карціны гісторыі. Да "абшарнага" жывапісу аўтар вяртаецца раз-пораз і ў лірычным цыкле "Пераступаю парог...", хоць, дальбог, чакаю ад яго, што нават у вершы, адрасаваным жанчыне, і не проста жанчыне, а любай (бо паэты вершаў проста жанчыне не пішуць) — дык вось, чакаю, што ў гэтым вершы вывернецца, як тая плотка на паўкілаграма, улюбёная тэма пра Беларусь... Відаць, сам так напісаў бы, ці што? Але не, у гэтых вершах толькі пра каханне, і часам шчымліва:

**Пера-**
**ступаю парог**
**З горкай назовай —**
**расстанне.**
**Сумна ўсміхаецца Бог**
**Мудры, як ранне.**

Хаця, прыгледзеўшыся, дык тую плотку ўсё-ткі можна ўбачыць:

**Што падзееш з табой, такой:**
**Плечы самі насустрач горнуцца,**
**Ну а вочы з глыбінь вякоў**
**Апякаюць шляхетнай годнасцю.**

Заўважу, што па сваёй каларыстыцы вершы М. Пракаповіча бел-чырвона-белыя, прычым белы ці блізкі да белага колер вызначае яго інтымную лірыку.

Адзначу тут такую яе асаблівасць, якая прыемна адрознівае яго стыль ад пэўных ружовых, блакітных і немаведама якіх "віршаў" пра каханне паэтаў і асабліва паэтак. Яго ліра мае пол, яна мужная ад слова муж, мужчына, яна зямная, цялесная і густоўна эратычная.

**Калі і прадонне ночы —**
**цеснае для дваіх,**
**А сарамлівыя вочы**
**не вершаў чакаюць тваіх...**

**Раскоша жаночага цела**
**пяшчотай агорне цябе**
**уздыме гарачая хваля**
**і ў бездань абрынецца свет...**

*(З цыкла "Пераступаю парог...")*

Так, без знакаў прыпынку. Нагадаю, было яшчэ "пера-ступіць парог", і на ўсё гэта трэба знаходлівасць.

Зближае А. Каско з М. Пракаповічам тое, што кожны мае свой скразны, "чакаемы" матыў. Для сп. Алеся гэта роздум пра жыццё, для сп. Міколы — тэма Радзімы. Адрознівае іх падыход. Калі А.Каско арганічны ў тым, што не мінае тэму роднага краю ў філасофскім кантэксце, піша імпрэсіўна, то М. Пракаповіч робіць гэту тэму цэнтрам экспрэсіі, рэалізуе яе эпічна, плакатна. Гэта невыпадкова, бо няхай і блізкія па светапоглядзе, але першы яго ўсмактаў, як кажуць, з малаком маці ў Чудзянах, другі ж вырас бліз горада. Глядзіце: калі ў сп. Алеся нешта не бачна стылізацыі пад фальклор, бо ён арганічна ўвайшоў у стыль, дык сп. Мікола мае набыткі і ў перастварэнні фальклору:

**Прыляцела зязюленька**
**да акна,**
**кукавала з раніцы**
**да цямна.**
**Шугі ў лугі, зязюленька,**
**за сяло, —**
**не мая радзіначка**
**за сталом.**

*("З народнага")*

Чытаючы Пракаповічаву "Мяжу надзеі", успрымаючы галоўную, скразную яе тэму, я згадаў Генрыха Гейнэ, як той у выгнанні ў Парыжы пісаў сваю паэму "Германія. Зімняя казка". Пісаў ён са скрухай, але без трагізму, хоць даводзілася быць на радзіме толькі прыхапкам. Ключ да разумення дае напісаны Гейнэ крыху раней верш "Начныя думкі", адрасаваныя маці, што засталася на адабранай радзіме:

**Германія прабудзе вечна.**
**Яе здароўе неадпрэчна.**
**З яе сасной, з яе альхою —**
**Спаткаюся заўсёды з ёю!**

*(Вольны пераклад аўтара)*

Агульным чыннікам М. Пракаповіча і ў меншай меры А.Каско ёсць матыў страчанай радзімы. Так, нашы два паэты, як, разабраўшыся, і ўся беларуская літаратура, таксама ў выгнанні, у выгнанні куды больш трагічным, чым выгнанне Гейнэ. Яны ва ўнутранай эміграцыі. Сёння справа за тым, каб разарваць гэту несправядлівую, фатальную повязь. Ды М.Пракаповіч і А.Каско і самі спрабуюць гэта зрабіць, — вунь, адзін піша пра нефармалаў (цяпер ужо фармалаў), а другі не адстае:

**Песняры — ваяры,**
**як няма каму стаць ваярамі!**

*("Вехі")*

Зрэшты, гэта таксама горкая мета часу — калі паэты ідуць у палітыку...

**Яўген БЯЛАСІН**

*г.Брэст*

# СУВЯЗНІК — УНІВЕРСАЛ

Калі заходзіць у нас размова пра югаславістыку, непазбежна згадваецца імя Івана Чароты, прызнанага даследчыка і перакладчыка літаратур сербаў, харватаў, славенцаў, македонцаў ды іншых народаў былой СФРЮ на беларускую мову.

Але, як высветлілася падчас II Міжнароднага кангрэса беларусістаў, І. Чарота не менш актыўна і плённа займаецца папулярызацыяй беларускай культуры сярод паўднёвых славян. Значнай вяхою ў працэсе распаўсюджання айчыннага прыгожага пісьменства за мяжою стала падрыхтаваная ім для сербскахарвацкамоўнага чытача "Анталогія беларускай паэзіі" (Бялград, 1993), якую высока ацанілі тамтэйшыя крытыкі.

Ужо і пасля гэтага ў югаслаўскай перыёдыцы з'явіўся шэраг Чаротавых публікацый — "Краіна пад белымі крыламі" (часопіс "Погляды", 1994, N 145), "Пераклад ва ўмовах білінгвізму" (часопіс "Рэальнасць", 1994, N 4), "Разломы, раздарожжы і спрадвечная існасць" (часопіс "Сучаснік", 1993, N 9—11). А зусім неспадзяванкаю аказалася тое, што наш югаславіст — бадай, каб яшчэ актыўней папулярызаваць мастацтва слова Беларусі — сам пераклаў і надрукаваў у часопісе "Рэальнасць" вершы М. Багдановіча, А. Разанава, рыхтуе панараму беларускай паэзіі маладзейшага пакалення.

Што ж, робіцца не ўсім прыкметная, але ўдзячная справа.

**Міхась КЕНЬКА**

Васіль МАКАРЭВІЧ

# ДАЖДЖЫ І СНЯГІ



ІМПРЭСІЯ

Прымружыўшы пагляд
З усмешкаю на твары,
Шчаслівы на ляту
Лаві губамі іх
На сцежцы палявой
Ці людным тратуары.

Глыбока уздыхні,
Нібы дарэшты ўсмаг,
І, гледзячы ўгару
На снежныя заносы,
Ты паспрабуй на пах,
Адведай і на смак
Высокія снягі,
Аблокі і нябёсы!

Яны дзеля цябе
Найлепшыя сябры, —
Крыляюць над зямлёй
Ці зблізку, ці здалёку.
Хоць маўчуном маўчун,
Прыстой, пагавары
Ў світальнай цішыні
Ці вечаровым змроку.

Душою зразумей,
Што сіраты яны,
Не маюць ні кутка,
Ні сталага прытулку.
Адкуль яны плывуць,
Магчыма, што з вайны,
Дзе ў грукаце гармат
Не знойдзеш паратунку.

Іх працінаў наскрозь
Адчаем Карабах,
Перасыпаў наўсцяж
У папялінках прысак.
Ты неба удыхні —
Адчуеш на губах
Не толькі волкі золь,
Але і толу прысмак.

А ці даўно яшчэ,
Напоены бядой,
Над гаркатой дымоў
Разбою-балагана
Плылі у вышыні
З абмерлаю жудой
Над аскялеп'ем гор
Суровага Афгана!

Каму яна, вайна,
Не ные, не баліць?
Іх колькі адгуло
На свеце, не палічаш!
Вайны агонь і гул
Дажджамі не заліць,
Снягамі не заслаць
Нямыя папялішчы.

Ці раз шугаў ля іх
Раз'юшаны агонь,
У небе прадучы
Трасірнай пражы ніткі.
Магчыма, і цяпер
Прайшліся наўздагон

Жаданымі былі
Гасцямі у дуброў,
Хаця ад маразоў
Яны падчас дрыжалі.
Як пер'ем, белізной
Заносілі да броў,
І залівалі скрозь
Па забарскі дзяржавы.

Для іх усё адно
Браслаў ці Канатоп,
Дзе вечна на сталах
Агрызкі ды абрэзкі.
А хіба не дажджы
Наладзілі патоп
Да эры векавой,
Далёкай, дабіблейскай.

У смокінгу да пят,
Як далікатны дож,
І ў ценькім паліто,
Бы пан ясновяльможны,
Па лужах наўпрасцяк
Цыбаты дыбаў дождж,
Снег мчаўся у вазку
З прамёрзлай падарожнай.

Заўсёднікі яны
Вакзалаў і партоў,
Не ціснуцца туды,
Дзе месца падарожжай.
Ім не патрэбна віз
І нават пашпартоў,
Калі надыдзе час
Пусціцца ў падарожжа.

Не раз, як да бацькоў,
Ці да сваіх братоў,
Душой не басякі,
Натурай не гулякі,
Дажджы і снег ішлі
Цераз ніты дратоў
Ля грозных паставых
У логава ГУЛАГа.

Хто стомы на плячах
Штодня цягаў вазы,
Ды лёг на Калыме,
А не ля роднай Друці,
Дажджы ў андараку,
І ў світцы маразы,
Укленчыўшы на дол,
Прасілі іх: даруйце!

Са свістам палазоў
Ды з грукатам грамоў,
Да Нарачанскіх хваль
І Белавежскай пушчы
Вярталіся штораз,
Як да сябе дамоў,
З прасветленай душой
І з памяццю відушчай.

Нядзелькаю святой,
Ці рупнай серадой
Здаралася падчас,
Як і парою кожнай,

У бліскаўках — аблоках.

У гурбах ля платоў
Бялее, ды не спіць, —
Смяецца звонка снег
З усмешкаю дзіцёнка.
На гэту белізну
Аж боязна ступіць
Падэшваю цяжкой
Калянага валёнка.

Святога пачуцця
Ці можа хто стаіць,
Калі ад краю ў край
У інеі ад рання
Дзень белы над зямлёй
Бярозаю стаіць
З марозная яснатой
І цішай кафедральнай.

Пакуль яшчэ трашчаць
Ды енчаць маразы,
У дыме завірух,
На ўвазе гэта майце,
Ў развораных снягах
Світаюць абразы
З марозным алтаром,
З іконай Багамаці.

Каля сумёта, бач,
Суседзіцца сумёт,
Заходзяцца вятры
У немым галашэнні
Снягоў і маразоў
Святы спакон сінод
У белым сасняку
Вядзе Багаслужэнне.

Прымоўкне угары
Зімовая сяўня.
Паглядам маладым
Удалеч ты прыцэлься, —
Царэўнай каляда
Імчыцца на санях,
Калядкі па баках,
Як юныя прынцэсы.

Высокіх год маіх
Марозныя дымы
Не сохнуць і не мруць,
Не падаюць з гадамі.
Вавёрка не з дупла,
А з белае зімы,
Арэхі грызучы,
Дагэтуль выглядае.

Хіба не прападзе
Палын тваёй тугі,
Калі, як святары,
Ідуць хадою босай
Праз рэкі і палі
Апосталы снягі,
Узяўшы у руку
Усевідушчы посах.

Ідуць яны і ў сне,
Як і раней ішлі,

Хацеў бы ў вазакі
Не на адзін сезон,
На ўсе гады наняцца.

Хоць над ракой звіняць
Марозна трысснягі,
А роспач і туга
Ускрыкнуць летняй каняй.
І па жыцці ад іх
Шырокія кругі,
Як па вадзе рачной
Ад кінутага камня.

Падэшвы ад хады
Гарачь ажно смыляць.
Хто думаў, што ў сіло
Мяне завея зловіць?
Наліты сілай дзень,
Як чырванню смаляк,
Да працы чарнавой
Ён, як і я, не зломак.

І соль і чорны хлеб
Ад рання на стале.
З падвала часам коўш
Плыве з густою брагай.
Мяцеліц і завей
Адно мне не стае,
Сасмяглая душа
Іх апантана прагне.

Мне трэба, як і ўсім,
Маліцца і пасціць.
Надзеі буду рад
Маленькай азярынцы.
Прашу снягоў з нябёс
Мне столькі адпусціць,
Каб мог я з галавой
У холад іх зарыцца.

Хіба ўжо і на снег
Аб'яўлены ліміт?
Няўжо і дня пражыць
Не можам без ліміту?!
Не косці, а душу
Мне пачало ламіць,
Як ломіць вострый лом
Пластоўе даламіту.

Паўвека абышоў
Упоперак і ўдоўж,
Да славы і пасад
Не падпаўзаў, не краўся.
Дажджы і светлы снег,
Снягі і шэры дождж
Былі жыцця майго
Уцехай і акрасай.

Нас не наблізіў век,
Ад шчасця аддаліў.
І дражніцца яно,
Як водбліскі на шпілі.
Хто знае, што снягі
Мы д'яблу аддалі,
І Зорку да грудзей
Ягоных прышпілілі.

Чаканыя снягі,
Жаданыя дажджы,
Калі у гэтым ёсць
Найпільная патрэба,
Ты толькі іх пакліч,
Ты толькі ім скажы, —
Ляцяць яны удзень,
Ляцяць і ўночы з неба.

Падыдуць спакваля
На самы край крыла
Хмурыны снегавой
Ці дажджавой хмурыны,
І з вышыні крутой —
Была ці не была! —
Кідаюцца уніз
Рашуча, як у рыну.

Спыніўшыся тады
На нейкі час ці міг,

Даўжэзнаю чаргой
Глюгатыя зенткі.

Калі задухі ўзвар,
Бы цеста у дзяжы,
Ірве, як абручы,
Тугія небасхілы,
Прыходзяць аддаля
Грымотныя дажджы,
Маланак несучы
Трызубцы, нібы вілы.

У часу мітусні
Сусветнае тугі,
Клапатуны зямлі,
Лясныя грыбасеі, —
Славянскія дажджы,
Славянскія снягі,
Іх колькі на зямлі
Апала ды асела!

Удойна над зямлёй
На снежны сырадой,
Завозна на грамы,
На воблакі абложна.

Світанню, бы са сну,
Не ўзняць аснежных вей,
І чарцяжы мароз
На тонкіх шыбах чэрціць.
У дыме, бы ў вірах,
Раскручаных завей
Кружылі ведзьмары
І рагаталі чэрці.

Ты з клопатам удвух
Ад ранку на нагах.
І покуль ледзяшы
Свіцяцца, нібы блёкат,
Грабешся наўпрасцяк
Зусім не па снягах, —
Па белых і густых —

На верацёны дня
Сплываюць і прадуцца.
Заносяць на душы
Прагал пустой раллі,
Абнову снуючы
Шчасліваe прыдумцы.

У голаў аніяк
Сабе я не вазьму,
Чаму, калі зара
Шалёна запалае,
Успамінаю зноў
Паўночную зіму,
Разгневаны пажар
Нямога Запаляр'я.

Пад ранішняй зарой
Гулялі скразнякі.
Яліны ў башлыках
Маўчалі, як ванайцы.
Да белае зімы

Глядзіце, смольны лес
Трымаецца ледзь-ледзь.
Ягоны ўсохлы век
Штохвілі карацее.
Без снегу і дажджоў
Дол можа звар'яцець,
Як сёння я без іх
Часамі вар'яцею.

І помніцца дасюль
Больш сэрцу і душы,
Чым памяці самой
У часе маналітным,
Калі гарэў пясок
І не ішлі дажджы,
Абходзіла палі
З іконаю малітва.

Смяяцца, блазнаваць,
Скажу, вялікі грэх.
А страх усё ж душу
Дарэшты прабірае.
Мо трэба будзе нам
Плаціць за дождж і снег,
Як плацім за ўваход,
Прабачце, ў прыбіральню...

Даволі ім было
Галёкнуць: крой і рэж! —
І не на свой загон
Нахрапіста палезці,
Як глупствам і манай
Акуты лыч-лямеш
Разбэрсаў і растоўк,
Перавярнуў Палессе.

Ці ведалі яны?
Ды ведалі нябось! —
Цэкоўскія зубры
Пад гулкі рог турыны
Варочалі не дол,
А воблакі з нябёс
Зміналі качаргой,
Далей ад нас турылі.

Гатовы я прайсці
Праз Дантавы кругі,
Ніколі не глядзець
Фальшывага экрана, —
Аддайце мне дажджы,
Вярніце мне снягі,
Што у мяне няўзнак
Вы з д'ябламі укралі!

Каб не паліў душу
Гаркотаю палын,
У цішыні густой,
Без вэрхалу і тлуму,
Хай вецер адамкне
У шэрым небе млын,
Ды ў жорнах белы снег
Размашыста пытлюе!

А новы дзень — за днём,
За годам — новы год!
Нішто не спыніць іх
Нястрымнага разбегу.
Адвеку на зямлі
Ідзе кругазварот
Крылатага дажджу,
Акрыленага снегу.

Ці ж не сплацілі мы
Жыццём сваім даўгі?
Хіба мы каласы
Рашучасці дажалі?
Снягамі будзьце вы,
Марозныя снягі,
Аблежныя дажджы —
Гаючымі дажджамі!

Не толькі на далонь
Шурпатае шашы,
Ці на чарэнь і под
Расплаўленага лета,
Хай падаюць яны
На дно маёй душы,
Дзе прарастае рунь
Задумы гарыцветам.

Прабач, мой край, прабач,
Што горка ад тугі!
Ды каб вясной цвілі
Дзівосныя пралескі,
Хай цэдзяцца дажджы,
Няхай ідуць снягі
Над роднаю зямлёй
І над зямлёй палескай!

Я дзякуй ім скажу
Ад шчырае душы,
Калі хмурыны ў шлях
Збіраюцца ахвоча.
Бо трэба, каб снягі
І дужыя дажджы
Гаілі родны край
Святлістым днём
І ноччу!

## ХТО ТАКІ ЯЗЭП ГАЎРЫЛІК?

**Не ведаеце? Яно і не дзіўна: "Імя гэтага чалавека з-за трагічнасці лёсу, супярэчлівасці і неардынарнасці характару яшчэ ў нядаўнім мінулым даследчыкі стараліся абыходзіць. Не траліла яно і на старонкі беларускіх энцыклапедычных выданняў і пакуль што вядома толькі вузкаму колу гісторыкаў. Але гэтаму чалавеку належыць значнае месца ў беларускім нацыянальным адраджэнні 20—30 гг". Пра гэтага дзеяча можна даведацца з нарыса У. Адамушкі "Язэп Амяльянавіч Гаўрылік", змешчанага ў другім нумары "Беларускага гістарычнага часопіса" пад рубрыкай "Імёны вядомыя і невядомыя". Шэраг іншых матэрыялаў выдання таксама спатаняюць цікавасць па розных пытаннях нацыянальнай гісторыі. Прынамсі, У. Лемяшонак выступае з артыкулам "Веліч і трагедыя вайны". Артыкулы Л. Калядзінскага "Витебск — три стены каменные..." і В. Грыгор'евай, А. Філатавай "З гісторыі канфесіянальнага жыцця Віцебскай губерні (канец XVIII — пачатак XX стст.)" аб'яднаны ў сшытак "Віцебшчына". Да 1010-годдзя заснавання Заслаўя прымеркаваны публікацыі Н. Стрыбульскай "Гарадзішча "Замачак" — мінулае і сучаснае", А. Красновай "Рынкавая плошча ў Заслаўі" і "Гісторыя адной памылкі", Н. Матыліцкай "Фальклорныя традыцыі Заслаўшчыны". Друкуецца заканчэнне артыкулаў В. Лукіна "Народы Прыбалтыкі на тэрыторыі Беларусі (другая палова XVIII — першая палова XIX ст.", М. Касцюка "Сталіншчына і Беларусь", артыкул І. Котава "Да гісторыі п'есы Янкі Купалы "Тутэйшыя", шэраг іншых матэрыялаў.**

## ...І ЎВЕСЬ МУЖЧЫНСКІ СКЛАД



**Напрыканцы сезона Магілёўскі абласны драматычны тэатр парупіўся пра прэм'еру для дзяцей — казку Сяргея Казлова "Парася, якое спявае". Парупіўся, дзякуючы аднаму з вядучых акцёраў Вячаславу Галкіну — ён прапанаваў рэжысёрскае вырашэнне спектакля. Мастаком быў запрошаны Валерый Гараднякоў, музыку і вершы напісаў магілёўскі бард Аляксандр Баль, над танцамі шчыравала балетмайстар Зоя Макарэвіч.**

**Тым часам Валерый Маслюк (Віцебск) узяўся спраўджваць свае даўнія абавязацельствы перад тэатрам — ставіць... Менавіта — "Рычарда III" У.Шэкспіра, заняўшы ў рэпетыцыях увесь мужчынскі склад трупы. Прэм'ера спектакля будзе прымеркавана да адкрыцця новага тэатральнага сезона.**

**Вадзім КУСТОЎ**

*На здымку: сцэна са спектакля "Парася, якое спявае". Галіна Лабанок (Парася) і Ларыса Бялова (Заяц).*

*Фота аўтара*

## ПРАПАНУЕ НЯМЕЦКІ КУЛЬТУРНЫ ЦЭНТР...

**У сувязі з днём вызвалення Беларусі і 50-годдзем заканчэння Другой сусветнай вайны Нямецкі культурны цэнтр імя Гётэ ў Мінску арганізаваў у Доме літаратара фестываль антыфашысцкіх фільмаў. Праграма ўключае шэраг стужак, створаных нямецкімі кінематаграфістамі ў розныя гады, у якіх праўдзіва асэнсоўваюцца складаныя падзеі. Паказ пачаўся ў мінулы аўторак фільмам "Забойцы сярод нас" — гэта першы нямецкі пасляваенны фільм і адначасова першая стужка студыі ДЭФА. Аматары кіно атрымалі магчымасць пазнаёміцца таксама з такімі фільмамі, як "Ліссі", "Якаб-ілгун", "Заручаная"... Фестываль завершыцца ў наступны аўторак дэманстрацыяй фільма "Твой невядомы брат", створанага ў 1982 годзе, які выклікаў у Германіі далёка неадназначную ацэнку і палеміку.**

Музыка

# ГЭТА БЫЎ МАЙСТАР

### ЗГАДКІ ПРА НАРОДНАГА АРТЫСТА БЕЛАРУСІ СЯМЁНА ТАЛКАЧОВА

Глыбокая зімовая ноч. Толькі чуецца ў хаце пасопванне малых ды нягучны бацькаў храп. Раптам, нібы ў казцы, загучала прыгожая музыка — і абудзіла ўвесь дом. "Хто ж гэтак грае на піяніна?" — усхапіліся і дарослыя, і дзеці. І як жа здзівіліся, калі за фартэпіяна ўбачылі самага маленькага Талкачова — трохгадовага Сымоначку. Ён быў так захоплены музыкай, што нават не заўважыў замілаваных сваякоў. "У хлопчыка відавочны талент, яму трэба вучыцца музыцы!" — расхваляваўся бацька пасля гэтага "публічнага канцэрта"...

... Дзяцінства Сямёна Талкачова прайшло ў Бабруйску. Бацька хлопчыка на ўвесь горад славіўся ўмельствам. Яго называлі майстар "залатыя рукі"; мог зрабіць мэблю, адрамантаваць замок, настроіць любы музычны інструмент. Дома ў яго былі і фартэпіяна, і скрыпка, і мандаліна, на якіх у вольны час з задавальненнем гралі і ён, і дзеці. Гэтыя хатнія канцэрты з маленства чуў і таленавіты Сымончык, музыка для якога сталася сэнсам жыцця, прафесіяй. Праўда, сур'ёзна вучыцца пачынаў ён на скрыпцы, але ўсё ж перамагла любоў да фартэпіяна.

Сямён Талкачоў вучыўся ў адной з праслаўленых кансерваторый свету — Маскоўскай дзяржаўнай імя П.Чайкоўскага. Яго педагогамі былі заснавальнікі адной з буйнейшых савецкіх піяністычных школ — прафесары Ганна Астроўская ды Канстанцін Ігумнаў. У студэнцкія гады Талкачоў працаваў канцэртмайстрам у оперным і дырыжорскім класах Маскоўскай кансерваторыі пад кіраўніцтвам знанага маэстра Мікалая Галаванава і, безумоўна, многаму навучыўся. Потым працаваў як піяніст-саліст Ленінградскай філармоніі, галоўны канцэртмайстар Заходне-Сібірскай і Усходне-Сібірскай оперы, потым — як галоўны канцэртмайстар Куйбышаўскага опернага. І, нарэшце, больш чым трыццаць гадоў быў ён галоўным канцэртмайстрам Дзяржаўнага тэатра оперы і балета Беларусі — з перапынкам у час Вялікай Айчыннай, калі С.Талкачова прызвалі ў армію, пакуль не выйшла ўрадавая пастанова аб вызваленні ад службы асабліва адораных людзей.

Такім чынам, з 1939 года і да канца жыцця Сямён Талкачоў працаваў з беларускай опернай трупай. Сёлета — 25 гадоў, як не стала Сямёна Львовіча. Аднак імя яго залатымі літарамі ўпісана ў гісторыю музычнай культуры Беларусі. І сёння ёсць нагода пра гэта ўспомніць.

У ім, галоўным канцэртмайстры опернага тэатра, спалучаліся сапраўдныя вартасці: шматгранная музычная эрудыцыя, найвышэйшы прафесіяналізм, яркі талент піяніста, які бліскуча чытаў з ліста, а таксама добра ведаў вакал. Ён выхаваў не адно пакаленне спевакоў. З кожным салістам працаваў над гукам, нюансіроўкай, дыкцыяй. Так што С. Талкачоў зусім заслужана падзяляў поспех Л. Александроўскай і Л. Аляксеевай, А. Арсенкі ды І. Балоціна, Р. Млодак і М. Дзянісава, С. Друкер і М. Ворвулева, Т. Ніжнікавай і А. Саўчанкі, Н. Ткачэнкі, З. Бабія, В. Чарнабаева... Гэты спіс можна працягваць.

Пра шматграннасць канцэртнай дзейнасці С. Талкачова сведчаць, напрыклад, праграмкі, якія захаваліся ў ягонай дачкі Ларысы (таксама канцэртмайстра). Самай старой з іх больш як пяцьдзесят гадоў. Яна датавана 16 чэрвеня 1942 года. У той дзень у Маскве адбыўся творчы вечар салістаў тэатра оперы і балета Беларусі. Удзельнічалі вядомыя спевакі Л. Александроўская, А. Арсенка, Р. Млодак, Д. Кроз, І. Балоцін, І. Мурамцаў, Л. Аляксеева, балерыны А. Нікалаева. Партыю раяля выконваў С. Талкачоў. Тады ж, у час Вялікай Айчыннай, на сцэне горада Горкага спевакі беларускай оперы выконвалі "Яўгенія Анегіна" П. Чайкоўскага пад раяль, які, дзякуючы натхнёнаму выкананню Сямёна Талкачова, гучаў нібыта аркестр.

А вось маскоўская праграмка больш позняга часу — 1962 года, у якой паведамляецца пра канцэрт, прысвечаны 80-годдзю з дня нараджэння класікаў беларускай літаратуры Я.Купалы і Я.Коласа. Канцэрт адбыўся ў Калоннай зале Дома Саюзаў, сярод удзельнікаў гэтага свята былі салістка Вялікага тэатра СССР В. Барысенка, наша оперная "зорка" Т. Ніжнікава, цымбаліст А. Астрамецкі. Акампаніятар — С. Талкачоў. Захавалася шмат праграмак сольных канцэртаў у Маскве, Ленінградзе, Мінску ды ў іншых гарадах былога СССР выдатных беларускіх спевакоў М. Ворвулева, Н. Ткачэнкі, З. Бабія і многіх іншых, якія выконвалі песні, рамансы, арыі з опер. Усім ім бліскуча акампанаваў С. Талкачоў.

Геаграфія яго гастрольных паездак была досыць прадстаўнічая для таго часу. Шмат канцэртаў адбылося ў ГДР, Польшчы, Венгрыі. Цэлы месяц беларускія артысты выступалі ў гарадах Францыі. Поспех у французаў мелі спевакі С. Данілюк, Т. Шымко, З. Бабій, І. Сарокін, цымбаліст А. Астрамецкі і выдатны акампаніятар С. Талкачоў.

І яшчэ адметныя факты творчай біяграфіі С. Талкачова. Ён акампанаваў славутым балгарскім спевакам Дзмітру Узунаву, Каці Георгіевай. Узунаў быў зачараваны цудоўным беларускім музыкантам, марыў пра сумесную працу, але ў той час гэта было немагчыма... Калі ў Мінск неаднаразова прыязджаў на гастролі славуты тэнар Іван Казлоўскі, з ім быў яго пастаянны канцэртмайстар Навум Вальтар. Але неяк піяніст прыехаць не змог. Тады Казлоўскі, які даваў у Мінску сольны канцэрт, папрасіў Талкачова выступіць з ім. А потым спявак звярнуўся з просьбай да Сямёна Львовіча прыехаць у Маскву, каб зрабіць сумесныя запісы. Але, на жаль, ажыццявіць задуманае ім так і не давялося.

Людзі сталыя расказваюць, што С. Талкачоў быў не толькі выдатным акампаніятарам, але і таленавітым салістам. Бывала, падчас канцэртаў спевакоў ён выступаў і сола — з творамі для фартэпіяна. Памятны быў канцэрт па Беларускім тэлебачанні, калі Сямён Талкачоў ярка, эмацыянальна выканаў "Месяцавую санату" Бетховена. У другім тэлевізійным канцэрце ў ягоным выкананні прагучаў "Рэвалюцыйны эцюд" Шапэна. І зноў музыкант выявіў уласцівы толькі яму творчы почырк, яскравасць і майстэрства. Нярэдка ён выступаў і ў ансамблі з інструменталістамі.

Ну, а беларускія кампазітары давяралі Сямёну Львовічу першаму выконваць іхнія творы. Усе, хто прыносіў у тэатр сваю оперу, спачатку паказвалі яе Талкачову. Да меркаванняў гэтага высокаэрудзіраванага музыканта прыслухоўваліся А. Туранкоў, М. Аладаў, А. Багатыроў, Я. Цікоцкі...

У 1964 годзе Сямёну Талкачову было нададзена ганаровае званне народнага артыста рэспублікі. Гэта было прызнанне



вялікага таленту музыканта, прафесіянала найвышэйшага класа, піяніста з бліскучай тэхнікай. Дарэчы, ён па-майстэрску чытаў партытуры і нават мог па партытуры граць на фартэпіяна. Людзі дасведчаныя ацэняць гэты феномен: трэба ж было і транспаніраваць, і чытаць з ліста.

Калі наш тэатр упершыню ўзяўся ставіць балет "Спартак", дырыжор І. Абраміс ды С. Талкачоў, каб пракансультавацца, паслухаць пажаданні аўтара музыкі, удакладніць тэмпы будучага спектакля, з партытурай балета паехалі да А. Хачатурана ў Маскву. Цікава, што на той момант Сямён Львовіч нават не бачыў клавіра. Але кампазітар прапанаваў яму прайграць увесь балет на фартэпіяна, і каб не пакрыўдзіць паважанага чалавека, Талкачоў сеў іграць з ліста. Праслухаўшы, А. Хачатуран зазначыў, што такой чыткі з ліста ён ніколі не чуў. На памяць пра гэтую сустрэчу кампазітар уручыў Сямёну Львовічу клавір балета "Спартак" з даравальным надпісам.

Усім, што ўмеў і ведаў, сваімі здольнасцямі, вопытам С.Талкачоў імкнуўся падзяліцца з моладдзю. Некалькі гадоў ён вёў канцэртмайстарскі клас у Беларускай дзяржаўнай кансерваторыі. Сярод ягоных вучняў — дыпламант Міжнароднага конкурсу імя Р. Шумана, прафесар знанай "гнесінкі" Л. Багданава, прафесар Беларускай акадэміі музыкі С.Бялькевіч, загадчыца кафедры спецыяльнага фартэпіяна Мінскага музычнага вучылішча Л. Ліхачэўская і інш. Добрай пераемніцай майстра стала ягоная дачка Ларыса Талкачова, якая з маленства засвоіла стаўленне бацькі да музыкі, для якога гэта была справа святая. Ларыса Сямёнаўна таксама канцэртмайстар і таксама перадае сакрэты маладым, выкладае ў Беларускай акадэміі музыкі.

На жаль, сваю ўнучку Волечку С. Талкачоў ужо не ўбачыў. А яна пасля заканчэння фартэпіяннага аддзялення Мінскага музычнага вучылішча паступіла ў Ленінградскую кансерваторыю на факультэт мастацтвазнаўства, абраўшы спецыяльнасць балетазнаўцы... Музычная дынастыя Талкачовых прадаўжаецца.

**Вера КРОЗ**

*Гэты здымак С.Талкачова датаваны 1947 годам.*



# ЧАРГОВЫ РАЗ ПАВОДЛЕ ГАЛУБКА

Мастацкі кіраўнік Слонімскага беларускага драматычнага тэатра Мікалай Варвашэвіч ажыццявіў пастаноўку спектакля "Каханне з падманам" па п'есе Уладзіслава Галубка "Ветрагоны" (дарэчы, гэта трэці спектакль рэжысёра паводле ўлюбёнага драматурга). Як вядома, п'еса ў розны час на сцэнах Беларусі ішла пад назвамі "Хціўцы", "Дваяжэнцы" і інш. У Слоніме прэм'ера адбылася пад назваю "Каханне з падманам".

...Смех драматурга з адмоўных рыс чалавечага жыцця шчыры і адкрыты. Рэжысёр пэўным чынам асучасніў драматургічны матэрыял і падзеі спектакля перадлумачваюць наш будзённы, звычайны дзень...

У ролях занятыя Ніна Жукоўская, Таццяна Жатарава, Ірына Яцук, Віктар Шчарбакоў, Васіль Сявец, Уладзімір Навумік, Сяргей Фурса.

**Сяргей ЧЫГРЫН**

*На здымку сцэна са спектакля "Каханне з падманам".*

*Фота Мікалая СУПРУНА*

Прэм'еры

# "УДАВА", ЗНІЯКАВЕЛАЯ АД СПЁКІ, або ЦІ ТРЭБА "АМПУТАВАЦЬ ГАЛАВУ"?

## НОВЫ СПЕКТАКЛЬ ДЗЯРЖАЎНАГА ТЭАТРА МУЗЫЧНАЙ КАМЕДЫІ

Ну, вось і здзейснілася. Прэм'ера "Вясёлай удавы" Ф. Легара, пра якую так многа гаварылі ў тэатры музычнай камедыі, нарэшце адбылася. І прыпала на тыя ашалелыя дні пачатку чэрвеня, калі слупок тэрмометра падымаўся да 32-градуснай адзнакі. Не ведаю, хто як, а я асабіста дрэнна пераношу спякоту. У мяне настае, як выказваецца адзін з герояў "Вясёлай удавы", Нэгаш (Г. Казлоў), "поўнае размякчэнне мозгу", калі, згодна з парадай таго ж Нэгаша, "галаву трэба ампутаваць і аддаць сабакам". Зрэшты, больш не буду пакуль што цытаваць нятленныя перлы, якія прамаўляюць са сцэны мае любімыя артысты. Я — пра спёку. Мяне яна даканала. А спектакль — дабіў. Бо такой — прабачце мяне — "радасці" на сцэне беларускай музкамедыі не з'яўлялася даўно. Дый што магло нарадзіцца ў тэатры, які быў у ліхаманцы ўвесь гэты сезон — у ліхаманцы ад бясконцых праверак, камісій, рэвізій? Што магло з'явіцца ў шматпакутным тэатры, дзе няма згоды паміж акцёрамі, дзе не адчуваецца сапраўднага мастацкага кіраўніцтва і дзе ў чарговы раз здымаюць з пасады чарговага дырэктара?..

Тым не менш, прэм'еру ўсё ж справілі, прымеркаваўшы яе да 125-годдзя з дня нараджэння Ф. Легара і да 90-годдзя з дня першай пастаноўкі "Вясёлай удавы" ў венскім тэатры "Ан дэр Він".

"Вясёлая ўдава" — адзін з тых твораў, што, як правіла, значацца ў афішы амаль кожнага тэатра аперэты. Калісьці гэты спектакль ішоў і ў Мінску, і ставіў яго рэжысёр Л. Вількові. Не было ў той пастаноўцы нічога дзіўнага, і ніякіх Амерык яго стваральнікі не адкрывалі. І тым не менш, "Вясёлая ўдава" была не горшая за іншыя тагачасныя пастаноўкі. А калі ў галоўных ролях выходзілі на сцэну Н. Гайда і Р. Харык, В. Мазур і П. Рыдзігер, неяк не думалася пра тое, што дэкарацыі спектакля вельмі сціплыя, а сюжэт самой аперэты немудрагелісты. Гэты сюжэт, што называецца, "чытаўся", чытаўся лёгка і з задавальненнем. А яшчэ былі ў тым спектаклі нейкія святло і шчырасць. Не ведаю, можа, даваць такія эпітэты былой пастаноўцы мяне прымушае настальгія па тых часах, калі я, студэнтка кансерваторыі, толькі пачынала адкрываць для сябе наш чароўны і дзівосны тэатр музкамедыі, у які проста закахалася на ўсё жыццё. "Вясёлая ўдава" рэжысёра Л. Вількові — адтуль, з тых успамінаў...

Але прамінула 10 гадоў, мой улюбёны тэатр прыкметна ўзмужнеў, пахарашэў, пасур'ёзнеў. І — пабагацеў. На фоне іншых спектакляў "Вясёлая ўдава" ўсё больш і больш глядзелася папялушкай, адкрыта старэла. Нарэшце, пастаноўку знялі.

Летась беларускі тэатр музычнай камедыі стаў членам Еўрапейскай музычнай акадэміі тэатраў. Будучы на кангрэсе гэтай акадэміі, былы дырэктар тэатра С. Косцін атрымаў аўтарскую партытуру "Вясёлай удавы", г. зн. першакрыніцу. Нашаму тэатру быў дадзены унікальны шанц — узнавіць твор так, якім яго стварыў сам маэстра Легар. Не сакрэт, што, у адрозненне ад класічных оперных партытур, аперэтачныя ў нас амаль не выдаюцца, і кожнаму тэатру — маю на ўвазе тэатры аперэт былога Саюза — даводзіцца ой як круціцца, "збіраючы па крупінках" тую ці іншую вядомую аперэту. Дырыжоры самі дапісваюць аркестроўкі, рэжысёры дапускаюць шматлікія ўстаўныя нумары (так, напрыклад, усё ў той жа "Вясёлай удаве", як правіла, выконваецца вельмі папулярны цяпер нумар "Арэлі", які належыць пяру кампазітара А. Голендэра і быў "уманціраваны" ў спектакль аж у 1906 годзе, калі "Удаву" паставіў С.-Пецярбургскі тэатр "Пасаж"). Напэўна, гэта заганная практыка. Але я ўсё ж дазволю сабе выказаць крамольную думку і заўважу, што простаму гледачу абыякава, што ўстаўляюць пастаноўшчыкі ў той ці іншы спектакль. Важна, каб ён "дыхаў", быў жывы, каб захапляў.

Напрыклад, у мінулым сезоне ў нас адбылася прэм'ера аперэты М.Стрэльнікава "Халопка". Пастаноўшчыкі адкрылі ўсе купюры, працуючы таксама з аўтарскай партытурай. І што ж? Атрымалі маруднае, сумнае відовішча цягам на 4 гадзіны. Адразу ж пасля прэм'еры рэжысёр вымушаны быў пераставіць адны сцэны і скараціць іншыя. Не хачу, аднак, працягваць гэтыя спрэчныя развагі. Усё адносна. Галоўнае, каб тое, што прапануецца гледачу, было таленавітае, цікавае, дасціпнае. І тады пастаноўшчыкам даруецца многае з таго, да чаго можна было б "чапляцца".





Нібы пацвярджаючы гэтыя думкі, на маё пытанне: "Як трэба ставіць класічныя аперэты, ці ёсць нейкі эталон?" — рэжысёр цяперашняй версіі "Вясёлай удавы" М. Дотлібаў (ён меў гонар ставіць Легара ў Вене) адказаў: "Ніякіх правілаў няма". Напэўна, таму "Вясёлая ўдава" ў новым мінскім варыянце без шкадавання пазбавілася голендэраўскіх "Арэляў" і як сапраўдная модніца, прымерыла на сябе балетны дывертысмент (даўжынёй амаль у 15 хвілін!), спецыяльна напісаны да гэтага выпадку беларускім кампазітарам У. Дарохіным. Праўда, У. Дарохін пісаў сваю музыку, грунтуючыся на мелодыях самой "Удавы". Тут я павінна змяніць свой з'едлівы тон і заўважыць, што гэта па-майстэрску зробленая музыка ў цэлым не пярэчыла легараўскай, а сам балетны дывертысмент ("Начны Парыж" — так ён называецца) у бліскучай пастаноўцы Н. Дз'ячэнкі ўпрыгожыў спектакль.

Увогуле, 3-ці акт, пра які тут ідзе гаворка, аказаўся найбольш удалым, кампактным і багатым на адкрыцці. Вось дзе прыдалася наяўнасць аўтарскай партытуры, калі дырыжор А. Лапуноў упершыню пасля шматгадовага пераможнага шэсця "Вясёлай удавы" па савецкіх тэатрах аднавіў забытыя, дагэтуль нікім не пастаўленыя сцэны з гэтай аперэты. Маю на ўвазе цудоўны нумар Нэгаша "Мы — парыжане" і сцэну парыжскіх грызетак ("Мы — парыжскія грызеткі" — з задавальненнем спяваюць актрысы З. Вяржбіцкая, А. Чумакова і Л. Шаўчэнка, якія, праўда, чамусьці ў дзвюх папярэдніх дзеях ціхмяна выконвалі ролі пасольскіх жонак. Гэткае пераўвасабленне, як і шмат іншых "знаходак" пастаноўкі, трэба думаць, — плод гуллівай фантазіі рэжысёра). Увогуле, хараство музыкі Легара — рэч самакаштоўная і не мае патрэбы ў дадатковых характарыстыках. "З "Вясёлай удавой", — пісаў сам кампазітар, — я знайшоў свой стыль, да якога імкнуўся ў папярэдніх творах. Я думаю, што жартоўная аперэта не ўяўляе цікавасці для сённяшняй публікі. Я не магу бачыць прызначэнне аперэты ў тым, каб падвяргаць асмяянню ўсё цудоўнае і ўзвышанае. Мая мэта — зрабіць аперэту высакароднай. Глядач павінен перажываць, а не глядзець і слухаць заведамае глупства".

Гэтыя словы маглі б стаць дэвізам для пастаноўшчыкаў "Вясёлай удавы". Але ў рэжысёра М.Дотлібава, відаць, быў свой позірк на тое, як трэба ставіць аперэту (бо правілаў жа няма!). Выбачайце, калі памыляюся, але мне здаецца, што ягонай мэтай было... надаць пошласці легараўскаму твору, прычым, на максімальную велічыню. Рэжысёр сам зрабіў пераклад п'есы В. Леона і Л. Штайна з нямецкай мовы, а таксама ажыццявіў яе "драматургічную рэдакцыю" (так напісана ў праграмцы). Думаю, Легар павярнуўся б у труне, калі б пачуў і пабачыў, што робяць і што гавораць героі выпакутаванай ім аперэты. Граф Даніла (А. Ісаеў), шукаючы гаспадыню згубленага веера, звяртаецца да жонкі саветніка пасольства: "Як у вас абстаяць справы з тым, што ссоўваецца-рассоўваецца?"... Той жа Даніла дзякуе Нэгашу: "Залаты вы чалавек", — і атрымлівае ў адказ: "А ў ламбард не бяруць: пробу ставіць няма куды". "Псік, стары барбос!" — кідае свайму мужу, ваеннаму аташэ, жонка Сільвіяна (Л. Шаўчэнка). Першай рэплікай барона Зэты (А. Ранцанц) робіцца фраза аднаго вядомага палітыка — "працэс пайшоў". А далей на працягу ўсяго спектакля акцёр упарта намагаецца пераймаць манеру гаворкі ды рухі іншага вядомага палітыка, хіба толькі не картавіць. Ды й на тым дзякуй!..

Публіка, як і трэба было чакаць, з захапленнем усё гэта прымае. Смяецца і рагоча. Але што вынясе яна з такога "шоу", прабачце за высокі штыль, у сэнсе духоўнасці? Не хачу абражаць тых, каму пастаноўка падабаецца. Але не хачу і атаясамлівацца з імі. Я бачыла ў гэтых сценах іншы тэатр і не хачу, каб цяперашняй "Удавой" мне "ампутоўвалі галаву", а тым больш "аддавалі яе сабакам". Я не хачу, каб з мяне як з гледача рабілі поўную дурніцу, і не жадаю гэтага іншым. Зрэшты, мая галава можа пацярпець і пасля выхаду гэтых нататкаў. І таму, пакуль яна пры мне, спяшаюся напаследак выплюхнуць сваю апошнюю "дозу атруты".

Дырыжор Анатоль Лапуноў, не вагаючыся, назваў на прэс-канферэнцыі "Вясёлую ўдаву" — цытую — "самым лепшым спектаклем тэатра". Дазвольце, паважаны маэстра! Як можна называць гэтак спектакль, дзе няма ніводнага жывога характару, па сутнасці, ніводнай вартаснай акцёрскай работы?! Бадай, толькі адна пара — З. Вяржбіцкая ды В. Мінгалёў (баранеса Зэта і Каміл дэ Расільен) па-сапраўднаму спрабуюць нешта іграць. Усе астатнія акцёры з рознай ступенню гучнасці вымаўляюць тэкст і спяваюць пад музыку (дарэчы, маэстра, — у гэты момант іх часцяком зусім не чуваць...).

Выканаўцы галоўных роляў Л. Станевіч і А. Ісаеў (Ганна і Даніла), працуючы ў пары не першы спектакль, зрабілі вялікі крок наперад у параўнанні са сваімі акцёрскімі набыткамі ў ранейшых пастаноўках. Парадавала, што А. Ісаеў стаў больш мяккі, чуйны да сваёй партнёркі. а Л. Станевіч прыкметна набыла раскаванасць, нязмушанасць сцэнічных паводзінаў. І ўсё ж вядучым салістам не хапае тых акцёрскіх якасцяў, праз якія глядач паверыў бы ва ўзаемнасць пачуцця Ганны і Данілы. Шмат працы чакае спевакоў і ў плане ўдасканалення свайго вакальнага майстэрства.

Вонкавае аблічча, афармленне спектакля прываблівае, уражвае. Праўда, і тут не магу не сказаць пра пэўны "перабор". Прыгажосць і незвычайнасць касцюмаў (Т.Тулуб'ева) і дэкарацый (І. Нежны) у нейкі момант становяцца празмернымі, пярэстымі. З-за стракатасці іх перастаеш заўважаць. Вочы неяк самі сабой заплюшчваюцца, патрабуючы адпачынку ад гэткага бляску. А вушы цярпліва працягваюць "трымаць" тое, што на іх "вешаюць"...

Але — даруйце мне гэткую недалікатнасць у выразах. Пэўна, усё ад неймавернай спёкі. Я, канечне ж, зноў і зноў буду прыходзіць у свой улюбёны тэатр. З надзеяй на тое, што ўсё ў ім стане на свае месцы і што спектаклі накшталт "Вясёлай удавы" не запануюць на яго сцэне.

...У адрозненне ад млявацякучага "замужжа ўдавы" прыемна ўразіла мяне іншае вяселле, сапраўднае — галоўнага дырыжора тэатра А. Сасноўскага. Яно адзначалася ў дзень прэм'еры, за кулісамі, і шчырасцю падзей зусім не нагадвала сцэнічнае. З чым і віншую...

**Вольга БРЫЛОН**



*На здымках: сцэны са спектакля "Вясёлая ўдава".*

*Фота Віт. АМІНАВА*

## "ЖЭСТУ" — 15 ГАДОЎ



**Тэатру-студыі пантаміміы і клаўнады "Жэст" сёлета спаўняецца пятнаццаць. Узрост юны, але для тэатра гэта ўжо сталасць.**

**У цэнтры ўвагі спектакляў "Жэста" заўсёды чалавек і яго праблемы. Артысты не імкнуцца рабіць толькі камедыю або трагедыю. І ў апошняй іх рабоце — "Традыцыйная кухня вострава Рукю" — яны паказваюць гледачу, што жыццё — гэта разнаколерная палітра з мноствам разнастайных адценняў.**

**Уся работа "Жэста" трымаецца, на жаль, на энтузіязме акцёраў, бо ў тэатра дагэтуль няма сваёй сцэны. Магчыма, таму "Жэст" больш вядомы за мяжой. Калектыў ужо пабываў у Швейцарыі і Аўстрыі, аб'ехаў амаль усю Германію. І ўсё ж справай гонару жэстаўцы лічаць выступленні перад беларускімі гледачамі.**

*На здымку: сцэна са спектакля "Традыцыйная кухня вострава Рукю".*

*Фота Віктара ТАЛОЧКІ,* БЕЛІНФАРМ

## СЯМЕЙНАЯ ВЫСТАВА ГАБЕЛЕНАЎ



**У Гомелі праходзіць выстава габеленаў мужа і жонкі Ірыны Данілавай і Арсенія Двараніна. У сваёй тэхніцы выбару габеленаў, у аснове якой ляжыць традыцыйная нацыянальная манера, гэтыя мастакі паспяхова ўжываюць рэльефнае ткацтва. Гэта дасягаецца дзякуючы выкарыстанню самых розных матэрыялаў.**

**Работы Ірыны і Арсенія экспанаваліся ў Музеі дываноў у Францыі, на іншых прэстыжных выставах, знаходзяцца ў прыватных калекцыях у ЗША, Германіі.**



*На здымках: муж і жонка Ірына Данілава і Арсеній Дваранін у час адкрыцця выставы. Габелены "Вечнае святло".*

*Фота Сяргея ХАЛАДЗІЛІНА,* БЕЛІНФАРМ



# У ГОСЦІ ПРАЗ 71 ГОД

**Малады фін Аляксандр Ахола, які прыняў Кастрычніцкую рэвалюцыю як святло, што нясе свету выхад з цемры і пакут, трапляе з Чырвонай Арміяй у Віцебск. Тут ён знаёміцца з вучнямі вядомай віцебскай школы жывапісу — Шагалам, Пэнам, Малевічам, Юдовіным і іншымі.**

**Тыя гады рабілі рэвалюцыю і ў мастацтве, і ў свядомасці людзей. На грэбені яе быў і малады фін, які пражыў і адпрацаваў у Віцебску чатыры гады. Аляксандр Ахола ўзяў псеўданім Вало, што азначае святло, шмат маляваў, афармляў газеты і часопісы, кнігі, спектаклі.**

**І вось, праз 71 год у свае 95 (!) вядомы мастак Аляксандр Ахола-Вало, які жыве ў Швецыі і Фінляндыі, прыехаў у горад свайго юнацтва.**

**Тут у яго адбыліся сустрэчы з творчым актывам горада, з маладымі віцебскімі мастакамі. Аляксандр Ахола-Вало падарыў Віцебску дзесяць карцін з апошняй серыі сваіх работ "Кветкі разумнай любові".**

***На здымку: Аляксандр Ахола-Вало на сустрэчы з творчай інтэлігенцыяй горада.***

*Фота Аляксандра ХІТРОВА,* БЕЛІНФАРМ



# НЯНАВІСЦЬ: ХТО ЯНЫ, ДЗЕЦІ ХЛУСНІ?

*(Пачатак на стар. 5)*

— Што да Няўзорава, дык ён бессаромна хлусіць. Ёсць аўтарытэтная крыміналістычная экспертыза, якая ідэнтыфікуе подпісы Сталіна, Берыі, Молатава, Кагановіча і іншых членаў Палітбюро, што стаяць пад пратаколам. Ідэнтыфікаваны нават пішучая машынка і папера, на якіх друкаваўся гэты тэкст.

**— Помніцца, да ўсёй гэтай гісторыі расстрэлу ў Катыні меў дачыненне і старшыня КДБ, член Палітбюро ЦК КПСС у хрушчоўскія часы А. Шалепін, якога яго бліжэйшыя паплечнікі за вочы называлі "жалезным Шурыкам".**

— Так, была выяўлена яго рукапісная запіска М. Хрушчову, у якой ён раіў знішчыць усе дакументы, што сведчылі пра ўдзел Крамля ў катынскай расправе з польскімі афіцэрамі.

**— Няўзораў і гэтую шалепінскую запіску таксама лічыць сфальсіфікаванай?**

— Так, хоць почыркаведчая экспертыза адназначна засведчыла яго аўтарства. Ды і сам Шалепін, выкліканы для допыту па гэтай справе, ад сваёй запіскі не адмовіўся.

**— Мы крыху збочылі ад нашай тэмы — курапацкай трагедыі...**

— Не збочылі. Зноў паўтару: Катынь і Курапаты — звенні аднаго ланцуга. Нядаўна мне давялося выязджаць у Польшчу, дзе адбылася рабочая сустрэча расійскай, украінскай, беларускай і польскай дэлегацый, прысвечаная далейшаму выяўленню дэталяў катынскай гісторыі. Як вядома, катынскую справу даследуе ваенная пракуратура Расійскай Федэрацыі, якая многага на гэтым шляху дамаглася. У прыватнасці, ёй удалося высветліць, што расстрэлы ўзятых у палон у верасні 1939 года польскіх афіцэраў і салдат праводзіліся і ў іншых мясцінах, напрыклад, у Харкаўскай вобласці. І тут я падыходжу да самага цікавага, калі тут да месца гэтае слова. Паводле дакументаў, якія расіянам удалося вызваліць з нябыцця, у 1940 годзе па загадзе Берыі з турмаў НКУС у заходніх абласцях Беларусі было вывезена ў Мінск каля 3000 зняволеных, след якіх тут знікае. Аналагічная аперацыя праводзілася і на Украіне. Выяўлена датаваная сакавіком 1940 года запіска Берыі тагачаснаму наркому шляхоў зносін, члену Палітбюро ЦК ВКП(б) Л. Кагановічу такога зместу: "Для выканання аператыўнага задання неабходна тэрмінова вывезці ў дзесяцідзённы тэрмін з турмаў НКУС УССР зняволеных з заходніх абласцей Украіны за межы УССР — 8 тысяч чалавек, у яе цэнтральныя вобласці — 3 тысячы, з заходніх абласцей БССР у Мінск — 3000 чалавек". У запісцы даецца і поўная раскладка вагонаў, якія спатрэбяцца для гэтай акцыі. У прыватнасці, па Брэст-Літоўскай чыгунцы — 100 вагонаў прызначэннем у Мінск, Беларускай чыгунцы — 23 вагоны і Заходняй чыгунцы — 32 вагоны таксама з канечным пунктам прызначэння — Мінск. Такім чынам, гэты дакумент пацвярджае, што ў сакавіку-красавіку 1940 года ў Мінск былі дастаўлены з турмаў заходніх абласцей Беларусі каля 3000 чалавек, след якіх тут, паўтараю, губляецца.

**— Гэта былі польскія грамадзяне?**

— Да верасня 1939 года так, польскія, а пасля далучэння Заходняй Беларусі да СССР, фактычна, савецкія. Але з пункту гледжання рэжыму — сацыяльна небяспечныя. Дарэчы, у Расійскай Федэрацыі і на Украіне складзены і перададзены Польшчы спісы расстраляных органамі НКУС яе былых грамадзян.

**— А мы?**

— Наш КДБ упарта сцвярджае, што ніякіх падобных дакументаў у іх няма. Хоць я ўпэўнены ў адваротным. Яшчэ такая дэталь. У органах дзяржбяспекі, па маім меркаванні, павінны былі б захавацца загады аб выдзяленні зямельных участкаў пад расстрэлы асуджаных. Нашы беларускія чэкісты даводзяць, што такіх загадаў ніколі не існавала. У тым, што гэта, мякка кажучы, няпраўда, я ўпэўніўся пры сустрэчы са сваімі ўкраінскімі калегамі, якія мне расказалі, што такія загады на Украіне былі выяўлены. Цяжка паверыць, што беларускія органы НКУС тады працавалі па нейкай іншай сістэме, чым украінскія. Сістэма была адна, устаноўленая Лубянкай, і падпарадкоўваліся ёй усе — і ў Беларусі, і ў Грузіі, і на Украіне...

**— Дарэчы, як наш КДБ ставіцца да вашага расследавання курапацкіх падзей?**

— Індыферэнтна. Быццам і не ўмешваецца, але і не дапамагае. На ўсе свае запыты туды атрымліваю стэрэатыпны адказ: такімі дакументамі, ці такімі звесткамі не валодаем. Мне куды лягчэй мець справу са спецслужбамі Расійскай Федэрацыі, Украіны ці нават Польшчы.

Вось яшчэ адзін характэрны прыклад. Спрабуючы ў што б ні стала абяліць органы НКУС камісія Загараднюка высоўвае такі аргумент — у курапацкіх магілах выяўлены астанкі жанчын, што, быццам бы, сведчыць аб недатычнасці да гэтай справы чэкістаў, якія жанчын наогул не расстрэльвалі...

**— Якое кашчунства! Вядомы ж дакумент за подпісам В. Молатава, у якім даецца згода на расстрэл жонак найбольш вядомых "ворагаў народа".**

— Я звярнуўся да спецслужбаў Расіі з просьбай даслаць нам для азнаямлення некалькі актаў аб расстрэле палітвязняў у канцы трыццатых гадоў. Такі дакумент мы атрымалі, праўда, толькі па адной невялікай колькасці спраў, якія, дарэчы, тычыліся грамадзян нашай рэспублікі. Дакумент гэты ўяўляе сабой спіс асоб, накіраваны выязной ваеннай калегіяй Вярхоўнага суда СССР тагачаснаму наркому ўнутраных спраў БССР з наступнай прэамбулай: "Просім вашага дазволу аб прывядзенні ў выкананне прысуду выязной сесіі ваеннай калегіі Вярхоўнага суда СССР ад 28 кастрычніка 1937 года ў адносінах да 49 чалавек". І тут жа прыпіска ад рукі: "29 кастрычніка 1937 года ў 0 гадзін 30 хвілін прысуд ваеннай калегіі Вярхоўнага суда СССР у адносінах асоб, пералічаных у спісе прыведзены ў выкананне". І подпісы. Застаецца дадаць, што паводле гэтых актаў сярод расстраляных было 19 жанчын.

**— Вось вам і "аргументы" гараднюкоўцаў. А вы, Валерый Міхайлавіч, не спрабавалі высветліць, хто ўсё-такі стаіць за гэтай "грамадскай камісіяй", хто ініцыруе яе дзеянні?**

— Гэта не ўваходзіць у мае абавязкі. Мая задача — аддзяліць хлусню ад праўды, ад каго б гэтая хлусня ні зыходзіла.

Скажу адно — выяўлена мноства дакументаў, якія абвяргаюць ці не ўсе сцвярджэнні "грамадскай камісіі" адносна курапацкіх падзей. Вось хоць бы і гэтае. Наконт таго, што, па іх звестках, органы НКУС у 1939—1940 гадах наогул спынілі расстрэлы "ворагаў народа". Чытаю дакладную ў ЦК КП(б)Б начальніка 2-га аддзялення УДБ НКУС Беларусі "Аб ліквідацыі контррэвалюцыйнай паўстанцкай арганізацыі ў заходніх абласцях Беларусі з кастрычніка 1939 па ліпень 1940 года. Па ўсіх абласцях — 3231 чалавек".

**— Вядома, як лёгка было ў тыя гады прыпісаць любому чалавеку абвінавачанне ў прыналежнасці да контррэвалюцыйнай дзейнасці, шпіянажы, дыверсіі, сабатажы і да г. п. Але ва ўсіх нагаданых вамі дакументах фігуруе лічба ў 3 тысячы чалавек, арыштаваных пасля верасня 1939 года ў заходніх абласцях Беларусі і неўзабаве адпраўленых у Мінск.**

— І тут іх сляды губляюцца, як я ўжо казаў.

**— Губляюцца ў Курапатах?**

— Хутчэй за ўсё — тут. У раскопе нумар пяць разам з абуткам, што мае замежную маркіроўку (любімы аргумент гараднюкоўцаў на карысць таго, што тут былі знішчаны "гамбургскія" яўрэі), была знойдзена і расчоска з надрапаным на ёй тэкстам на польскай мове: "Цяжкі лёс зняволенага. Мінск. 25 красавіка 1940 года. Думка пра вас даводзіць мяне да адчаю". Гэта на адным баку расчоскі. На другім: "26.04. Расплакаўся, цяжкі дзень". Гэтая дата на расчосцы, іншыя сведчанні прымушаюць зрабіць высновы, што рашэнне Палітбюро ЦК ВКП(б) ад 5 сакавіка 1940 года было выканана, і адным з месцаў, дзе гэта адбылося, былі Курапаты.

**— Вашыя далейшыя дзеянні?**

— Праца ў архівах. І не толькі беларускіх, а і ў архівах Расіі, Украіны, Польшчы, Германіі. Апошні шлях зняволеных ад Мінскай турмы да Курапат павінен недзе быць дакументальна зафіксаваны. Упэўнены, такія дакументы ёсць, і мы іх знойдзем.

**— Мне застаецца пажадаць вам плёну ў гэтым пошуку.**



Рабочы момант адкрыцця мастацкай галерэі. Спадары Гоманавы са спадаром Стальмашонкам.



У ролі міністра пяшчотных пачуццяў — Дзіма Дубсон.



Спадар Поль Рамановіч, завадатар самых вясёлых пасольскіх мерапрыемстваў.

# "ІМГНЕННІ ПРАЦЫ ЯК ІМГНЕННІ ШЧАСЦЯ"

*(Пачатак на стар. 1)*

трэба было распачаць сваю працу, прыехаўшы з Францыі... "Паўлінка", "Сірано дэ Бержэрак", "Рамеа і Джульета", "Звычайны цуд" (Купала, Растан, Шэкспір, Шварц) папярэднічалі "Голаму каралю" і "Каменнаму анёлу" (адпаведна, Шварцу і Цвятаевай). Для шмат каго з удзельнікаў гэтыя спектаклі былі апошнімі школьнымі. Дзеці, прабачце, маладыя людзі пакідалі свой маленькі абжыты свет, які з такою ўдзячнасцю заахвочваў у іх майстроў... Таццяна Шылава не хавала любові да іхняе грамады. Дасціпна і кранальна грамадавалі педагогі і выхаванцы. У Каці Агароднікавай, якая перагіграла паўтузіна галоўных роляў на школьнай сцэне, брала інтэрв'ю тэлебачанне. Сяргей Савянкоў, ці не самы папулярны выканаўца сярод аднакашнікаў, падобна, рыхтаваўся ўжо на выпуску... у войска. Адметна абаяльны Юрый Белякоў, сыграўшы таўстунакараля, ладкаваўся ў зале, каб глядзець на аднакласнікаў-акцёраў... Праўда, наперадзе быў яшчэ чэрвень з выпускнымі іспытамі і май з фестывалем франкафоннага аматарскага тэатра. "Па ініцыятыве Французскага пасольства ў Беларусі", — адзначалася ўжо тады ў запрашэннях...

Ініцыятыва спраўдзілася 11 і 12 мая на сцэне Тэатра юнага гледача, за што і дзякуй, і віват Ігару Андрэеву, ягонаму дырэктару, і Мадэсту Абрамаву, ягонаму мастацкаму кіраўніку. Тэатр прафесійны заахвочваў тэатр аматарскі і ў асобах Веры Кавалеравай, Жаны Друцкай, Маргарыты Патапчук (яны былі чальцамі журы разам з Аляксандрам Талстым, культурніцкім радцам пасольства). Знайшліся нават памагатыя (спонсары) — сп. Чумак ("Матра"), сп. Ж.-Ф. Фельдман і сп. Ц. Малерб ("Аргас інтэрнацыянал"). Школы Гародні, Жлобіна, Гомеля, Маладзечна і Мінска спаборнічалі на мастацкай мове Мальера, Грыпары, Жыраду і Бамаршэ. Апошняга прадставіла якраз 74-ая школа і рэжысёр Таццяна Шылава.

— Праўда, гэтую пастаноўку я не паставіў у шэраг самых моцных спектакляў школы, — адзначыў Поль Рамановіч як чалец журы. — І агульным пажаданнем было б адно: лепш брацц для сцэнічнага адаптавання сучасныя французскія творы. У Мальеры ды Бамаршэ складана зарыентавацца ўжо і самім французам, бо для такіх аўтараў толькі ведання мовы не стае. Прыкра і тое, што большыня мінскіх школ паставіліся да фестывалю сціпла. Зала амаль ніколі не была поўнаю. Толькі з адною пастаноўкаю ўзяў удзел універсітэт культуры (рэжысуру студэнта А. Якуба нават адзначылі) і Беларускі лінгвістычны універсітэт. Мо таму, што мы рыхтавалі свой тэатральны фэст як школьны? Спадары студэнты пачуваліся на нашым свяце прафесійнікамі... А сярод пераможцаў, безумоўна, трэба назваць Віктара Ганускую (Гродзенскі універсітэт) і Наталлю Мацуганаву (Лінгвістычны універсітэт). Прызы — вандроўкі ў Францыю. Мацуганава сёлета возьме ўдзел у Авіньёнскім тэатральным фестывалі...

А ён распачнецца летнімі — ліпеньскімі днямі. Трапіць на яго — падарунак нават для прафесійніка. Падарунак і — свята, здатнае імгненні працы (і якой!) ператварыць у імгненні шчасця. Таццяна Шылава мае рацыю перад усімі. А школы — 20-ая, 79-ая, 74-ая, 148-ая, мінскія і франкапрыхільныя іншагародняя змацавалі гэтую рацыю сваім маленькім святам. Хоць і па ініцыятыве Французскага пасольства.

**Жана ЛАШКЕВІЧ**



Сцэна са спектакля "Каменны анёл" паводле Марыны Цвятаевай.



Сцэна са спектакля "Голы кароль" Я. Шварца.

Фота Віт. АМІНАВА

## БЕЗ ІСЦІНЫ НЕЛЬГА

**“Аднойчы вясною, у надзвычай душны адвячорак, на Патрыярхавых сажалках у Маскве з'явіліся двое. Першы, у шэранькім летнім гарнітуры, быў маленькі ростам, сыты, лысы, свой прыстойны на выгляд капялюш-булачку нёс у руцэ, а на чыста выгаленым твары меў велізарныя акуляры ў рагавой аправе. Другі — плячысты, рыжаваты, віхрасты малады чалавек у клятчастай шапачцы, ссунутай на патыліцу, — быў у каўбойцы, пакамечаных белых штанах і ў чорных тапачках”. Здагадаліся, адкуль гэты ўрывак? Але, з рамана Міхаіла Булгакава “Майстар і Маргарыта”, самы першы абзац яго. А па-беларуску гучыць ён таму, што прыведзены з кнігі, выпушчанай выдавецтвам “Мастацкая літаратура” ў перакладзе Алеся Жука. Тым самым серыя “Скарбы сусветнай літаратуры” папоўнілася яшчэ адным томам. І трэба сказаць, папаўненне дастойнае, бо творчасць М.Булгакава — яркая старонка ў гісторыі рускай і сусветнай літаратуры. А гэты яго раман стаў галоўнай кнігай пісьменніка, ён быў апублікаваны толькі ў канцы 1966 — пачатку 1967 года ў часопісе “Москва”. Самога ж М.Булгакава не стала ў 1940 годзе. І пра лёс пісьменніка, і пра лёс рамана можна даведацца з прадмовы М.Тычыны “Непазбежнасць ісціны”.**

## ДНІ КУЛЬТУРЫ ВІЦЕБСКА Ў РЭЗЕКНЕ




**У латышскім горадзе Рэзекне прайшлі Дні культуры Віцебска. Латышам былі паказаны лепшыя работы віцебскіх мастакоў і керамістаў, на выстаўцы тавараў народнага ўжытку былі прадстаўлены вырабы прамысловых прадпрыемстваў Віцебска. Сотні прыхільнікаў самабытнай беларускай культуры сабраў і канцэрт майстроў мастацтваў.**

**Вынікам Дзён стала заключэнне дагавора аб культурным і эканамічным супрацоўніцтве паміж Віцебскам і Рэзекне.**

*На здымку: канцэрт майстроў мастацтваў Віцебска.*

*Фота Аляксандра ХІТРОВА,* БЕЛІНФАРМ

## “ВЕТКАЎСКІЯ РУЧНІКІ”



**— так называецца перасоўная выстава Веткаўскага музея народнай творчасці. Яе экспазіцыя размясцілася ў Гомельскім абласным навукова-метадычным цэнтры народнай творчасці.**

**Веткаўскі раён славіцца сваімі майстрамі на ўсю рэспубліку, а вёска Неглюбка — умелымі вышывальшчыцамі ручнікоў. З гэтымі і многімі іншымі унікальнымі і самабытнымі работамі майстроў Веткаўскага раёна і знаёміць выстава (на здымку).**

*Фота Сяргея ХАЛАДЗІЛІНА,* БЕЛІНФАРМ

# ПАГОНЯ — БОГ, РАДЗІМА, НАРОД!

*(Працяг. Пачатак у N 27)*

Калі ж склад во паставім у канец слова волат, дык атрымаем лат-во (лот-во/лот-ва, як адно з азначэнняў літ-ва). Значыць імя волат з'яўляецца формай наймення лотвін/літвін. Абедзве формы захавалі ў сваім найменні волаты/велеты-люцічы (лецічы/лоцічы). Такім чынам, пацвярджаецца думка Шафарыка, што волаты-люцічы да перасялення ў міжрэчча Лабы і Одэра жылі на землях Віленшчыны і Гарадзеншчыны. Хаця можна сцвярджаць і адваротнае, што яны перасяліліся з захаду на Беларусь у часы нямецкай экспансіі на землі палабскіх славянаў.

Само сабой просіцца супастаўленне назвы рэчкі Полата з словам волат, бо корань лат/лот аб'ядноўвае іх (параўнаем летапісны шэраг: Полотьски кривичи і Волотьская рать). Пераход п—ф—в дае нам форму Волотьск або Волацк. Значыць, Полацк гэта горад волатаў (лотвы/літвы).

Для нашай тэмы цікава разгледзець і апакрыфічнае паданне аб паходжанні роду Гедымінавічаў, занатаванага ў рукапісе Антонія Корсака (1488 г.). Заснавальнікам роду названы асілак Гелон, які змагаўся са шведамі ў Жамойці. Ягоныя нашчадкі доўгі час жылі ў зямлі другавічоў, “народу прыязнага Літве”, а пасля перасяліліся ў Жамойцію. З гэтага роду паходзіў князь Лутавор (Літавор) і ягоны сын Віцень, якія з часоў Міндоўга былі князямі ў Полацку. А з Віценем летапісная традыцыя звязвае прыняцце Пагоні за дзяржаўны герб ВКЛ і знака Калюмны, як родавага сімвала Гедымінавічаў. Адразу заўважым ідэалагічную аснову падання — нашчадкі Гелона сваёю ўладай аб'ядноўваюць Жамойцію, Дрыгавіцкую і Крыўскую землі ў адно цэлае. Паданне нібыта абгрунтоўвае права Гедымінавіча на гэтыя землі. Але вельмі істотная акалічнасць — імя Гелон прадстаўляе ў паданні міфалагічны аспект. У грэчаскай міфалогіі Гелонам называўся сын Геракла, ад якога ўзнік народ гелоны. А паколькі Геракл нарадзіўся ад сувязі Зеўса і Алкмены, дык Гелон выступае ўнукам бога Грамоўніка. Імя “першапродка” Гедымінавічаў павінна было ўказваць на паходжанне іх ад Грамоўніка. Такая міфалагічная камбінацыя зразумелая для ўладароў паклоннікаў Перуна, бо яна “абагатварала” іх уладу і само паходжанне. Асаблівая роля ў паданні належыць Полацку, менавіта князя гэтага горада Віценя выбралі станы Вялікага княства Літоўскага за ўладара. І тым самым засведчылі перщынство полацкага князя над іншымі князямі. І гэта зразумела, калі ўлічыць, што Полацк — гэта сталіца волатаў (лотвы/літвы) і крэвічаў/крывічаў. Падобныя ўяўленні пра Полацк захоўваліся нават у XVI ст., калі рускія летапісцы выводзілі вялікіх князёў літоўскіх з полацкай княжацкай дынастыі. З Полацкам звязана і адна з першых лакалізацый назвы Белая Русь.

Для нашага даследавання важна ўстанавіць сакральную сувязь паміж найменнем Літва і Белая Русь. Тлумачэнню назвы Белая Русь прысвечана багата літаратуры (бадай уся яна, апроч грунтоўных доследаў беларускіх эміграцыйных гісторыкаў, надрукавана ў кнізе “Імя тваё Белая Русь”. Мн., 1991), таму не будзем спыняцца на разглядзе розных версій. Заўважым толькі, што многія даследчыкі звязвалі гэтае найменне з белым адзеннем беларусаў, бачыўшы ў гэтым сімвалічную сувязь з эпітэтам белы. Сувязь гэтую нельга адмаўляць, бо, канешне, белы колер адзення насіў сакральны характар. Блізка да правільнага тлумачэння гэтага наймення падышоў П.Крапівін, паводле якога “Белая Русь” уяўляецца паўперакладам на славянскую мову якойсьці вельмі старажытнай назвы, якая азначае “белая вада”. І раней даследчыкі ўказвалі, што слова рус/рос магло быць славянскім (дарэчы, гэтак лічыў буйнейшы славянавед П.Шафарык). Сапраўды, русь/рось азначаў у славян ваду, раку, расу. Хаця не выключана перайманне славянамі гэтага слова ад ранейшага насельніцтва Усходняй Еўропы. Для нас істотна, што са словам русь/рось утвораны такія азначэнні, як расці, росіцец — дробны дождж, прасіць — маліць, русла — ручай, струмень, старыца, парасткі — вітвіна, літвіна, гоні, а таксама пушча, гай, раса — туман. І гэтыя паняцці сінанімічна супадаюць з азначэннямі літ/віт, гон. Шкада, што П.Крапівін не пайшоў далей тлумачэння “белая вада” і не разгледзеў сакральны сэнс гэтага наймення. Зробім гэта мы. Не будзем доўга меркаваць наконт сэнсу эпітэта белы, бо тут разыходжанняў у даследчыкаў няма. Сапраўды, эпітэт белы падкрэсліваў значнасць, вялікасць, высакароднасць. Усякая крыніца дабрадзейства ў славян называлася белай: белы свет, белаяравіца, белая галоўка (жанчына), белы двор (сямейнае кола), белыя пірагі, белы шлях (знічка), зрэшты — кожны дзень у славяніна пачынаўся рытуальным умываннем вадой (беларускае выслоўе ў замовах: “Устану я рана-раненька, умыюся белым-бяленька”). Эпітэт белы з'яўляецца сінонімам святы, што азначае і жывы. Так што “белая вада” мае сакральны сэнс святая вада, жывая вада. Каб зразумець, чаму Белая Русь мела такую назву, варта лакалізаваць яе месца знаходжання. Ужо ў першай згадцы пра Белую Русь у “Дублінскім рукапісе” яна названа паблізу Яцвязі. Іпацьеўскі летапіс размяшчае Белую Русь каля Літвы. А першая дакладная лакалізацыя Белай Русі ў 1382 г. Янкі з Чарнкава ўказвае на Полацк; Пятра Зухенвіртаў — на Ізборск. На Пскоўшчыну, як на Белую Русь, указвае ў 1413 г. магістр Тэўтонскага ордэна Генрых Паўлян. Ёсць падставы сцвярджаць, што найменне Белая Русь першапачаткова адносілася да земляў полацкіх, пскоўскіх і смаленскіх крывічоў. Калі паглядзець на мапу, дык гэта зямля, з якой выцякалі тры буйнейшыя еўрапейскія рэкі — Заходняя Дзвіна (Эрыдан, Рубон), Дняпро (Барысфен), Волга (Ра, Іціль) — яны давалі жыццё шматлікім народам, якія сяліліся на іх берагах. І зразумела, што тая зямля, на якой нарадзіліся гэтыя рэкі, уяўлялася людзям, як зямля белай вады, а ў сімвалічным прачытанні — жывой вады. На тое, што назва Белая Русь першапачаткова адносілася да земляў крывічоў (г.зн. вярхоўе трох важнейшых для Усходняй Еўропы рэк), сведчыць наяўнасць гідронімаў з коранем “бел”. Так, на Віцебшчыне іх налічваецца 30 назваў, а ў Верхнім Падняпроўі — некалькі соцень.

Сінонімам назвы Белая Русь выступае назва Святая Русь. Напрыклад, у беларускіх замовах гэтыя назвы ідэнтычны. (“Ідзем мы на Белую Русь... забудзьце дарогу на святую Русь”). Канешне, у часы хрысціянства гэтая назва набыла зусім іншы змест — праваслаўная Русь або, як тлумачылі ў Еўропе, “грэчаскае праваслаўе”. На гэтую назву прэтэндавалі з палітычных меркаванняў маскоўскія ўладары. Яшчэ раней, паводле Тацішчава, назву Белая Русь ужываў князь Багалюбскі для абазначэння Растова-Суздальскай зямлі.

І нягледзячы на ўсе палітычныя перыпетыі, Белая Русь, як назва земляў крывічоў, захавалася на Смаленскай і Полацкай землях, хаця яе і пакрыў палітонім і этнонім Літва. Дзесьці з канца XVI стагоддзя Усходняя Літва ўсё часцей называецца Белай Руссю, а да праваслаўных літвінаў дадаецца азначэнне беларусец. І толькі ў XX ст. назва Беларусь становіцца найменнем былой Літвы. Палітычная гісторыя замены гэтых назваў асветлана намі ў даследаванні “Гісторыя нашага імя”.

Такім чынам, Белая Русь азначае белая (святая) вада, а Літва — літасцівая вада — абодва паняцці роднасныя Заўважым, што і-е. hvit/cvita азначае белы, такім чынам і слова вітва можна расшыфраваць як белая вада. Аб'ядноўвае словы літва і *вітва* семантычнае значэнне найменне Перуновага жраца Крэва, якое складаекцца з кораня *кьг(ь)*, вытворчага для слова креяці — рабіць, ствараць, ажыўляць і склада *ва* — вада. Так што, Крэва ў вышэйшым сакральным значэнні — жывая вада. Калі ўлічыць, што словам крэва/крыва абазначалася і кроў, дык становіцца зразумелым, чаму так яе называлі. Што мы атрымліваем: найменне Літва і Белая Русь тоесныя паняцці і азначаюць жывую ваду. Словам-кодам у гэтай сувязі выступае “Крэва”, а сімвалам — “Пагоня”. “Герб Белыя Руси издревле был всадник белый в красном поли, саблю имеюсчий перед собою”, — пісаў Тацішчаў. Супадзенні? Не, заканамернасць, бо паколькі Белую Русь насялялі крывічы, а Літву крывічы і дрыгавічы, дык і сакральны сімвал Перуна Пагоня быў для іх агульным.

Палітычна-дзяржаўны змест герб “Пагоня” атрымаў у часы Вялікага княства Літоўскага. Мы ўжо паказалі славянскае паходжанне слова літва і ягоны сакральны сэнс, але гэтае слова мела яшчэ адно паняцце — баявая дружына (пэўна, варта адмовіцца ад версіі паходжання Літвы ад Лютвы — люцічаў, хутчэй усё было наадварот). Версія, што Літва азначала і баявую дружыну, падмацоўваецца новымі фактамі і адпавядае той рэлігійна-сацыяльнай сістэме, у якой жылі да прыняцця хрысціянства славяне. Напрыклад, у Ругенскіх люцічаў у дахрысціянскія часы, як і ў крывічоў, існавала тэакратыя. Першасвятара свайго галоўнага бога Святавіта (ці не хаваўся пад гэтым імем Пярун, бо адзін з ягоных эпітэтаў Святавіты), люцічы шанавалі больш за свайго князя. Паводле сведчання Саксона Граматыка, пры храме Святавіта пад уладай жраца знаходзілася “трыста коней і столькі ж вершнікаў”. Гэта і была баявая дружына, якая служыла Святавіту, абараняла ягоны храм. Пэўна, лічба трыста для славян мела сакральны характар (нагадаем, што гоні значылі кола дыяметрам 300 м), бо ў паведамленні летапісу пра паўстанне валхвоў у Суздалі пад 1124 г. (!) указваецца: “и бе у них иных людей триста”. У быліне “Салавей Будзіміравіч” знаходзім: “Дружина его хоробрая, триста молодцев со единным” (параўнаем быліннае “хоробра Литва”). Лічба 300 ужывалася і ў рускіх замовах: “...триста коней железных и триста мужей железных, берите вы по луку железному и по триста стрел железных” (жалезныя стрэлы — сімвал Перуна). І ў гэтым шэрагу не выклікае здзіўлення паведамленне ноўгарадскага летапісу пра з'яўленне ў Пскове нальшанскага князя Даўмонта “с 300 литвы с женами и детьми”. Лічба 300 ясна паказвае, які сэнс нясе тэрмін літва. Заўважым, што паняцце літва не адносіцца ў летапісе да жанчын і дзяцей (красамоўнае ўказанне на прыналежнасць назвы літва да мужчын, таму становіцца зразумелым, чаму Перуновы дзень чацвер беларусамі лічыўся “мужчынскім”). Расшыфроўвае “літву” Пскоўскі летапіс, у якім сказана, што Даўмонт прыйшоў у Пскоў “со дружиною своею и со всем домом своим”. Як вынікае, літва і дружына паняцці тоесныя. У летапісах літва выступае сінонімам дружыны, напрыклад: “Даниил возведе на Конрада Литву Миндовга”, “Воеваша Литва”, “И послаша сторожа Литва”, “Привел Литву, дружину”. І ў беларускім фальклоры літва — тоесная дружыне жаніха (князя).

**Не наступай Литва,**
**Бо будзе з нами битва.**
**Будем бити, воевати**
**И девоньку не давати.**

У гэтым выпадку “Літва” звязана з вясельнай абраднасцю, але гэта заканамерна, бо днём вяселля ў славян быў чацвер — Перу-



*Перунова манета*

Вітаўт ЧАРОПКА



*Бронзавая падвеска з выявай вершніка XI ст.*

новы дзень. Пярун выступаў сімвалічным апекуном літвы (дружыны жаніха) і яе правадыра "князя" і ягонай "заручонай княгіні" — нявесты. Вось яна прамая сувязь літвы з Перуном. І вясельная абраднасць беларусаў імітавала вайсковыя функцыі дружыны літвы. "Паход" за нявестай называўся "наездам" або "вайной". "Адваяваная" нявеста характарызавалася як вайсковая здабыча. У гэтым сэнсе красамоўная песня, запісаная напрыканцы XIX ст. у смаленскіх беларусаў:

**Ударылі ў званы, у калакалы:**<br>
**Садзіцеся, баяры, усі на кані,**<br>
**Паедзім, баяры, у Новы горад**<br>
**А ў Новым горадзе дзільба будзіць:**<br>
**То таму то сяму па коніку.**<br>
**Нашаму Ванічку — кабыла ў сядле.**

Самая дарагая здабыча для баярына (воялітвіна) конь, а для іх правадыра — "кабыла ў сядле" (нявеста). Нельга не звярнуць увагі на асаблівае значэнне "Новы горада". Адразу ж нагадваецца Наваградак (Новы горад) на землях Літвы, які стаў першай сталіцай Вялікага княства Літоўскага. Заканамернае ўяўленне пра яго як пра горад, дзе літву (дружыну) чакае "заслужаная" ўзнагарода. Новы горад выступае сімвалам Літвы. Апісанне этнографаў "вайны" дружына жаніха з-за нявесты ("дикое фантастическое зрелище") раскрываюць змест паняцця тэрміна літва. Баяры са сваім князем скачуць на конях, спяваюць рытуальныя гімны. Каля дома нявесты дружыны "князя маладога" і "княгіні маладой" імітуюць бой. "Не наступай Литва". А літва наступала, "ляскаюць косамі, сякірамі, а то й страляюць на вецер", выламываюць браму і забіраюць з дому нявесту. Паколькі ў абрадзе ўдзельнічала літва, дык павінна прысутнічаць і Пагоня. Сапраўды, у вясельнай абраднасці беларусаў абыгрывалася сімволіка Пагоні. Баяры, забраўшы княгіню, гналі сваіх коней, "каб нішто ліхое не магло дагнаць". Бацька нявесты "князь стары" высылаў пагоню(!) за літвой, з якой ядналіся ў доме жаніха. У дадзеным выпадку Пагоня выконвае ролю сувязі паміж родам жаніха і нявесты. Зразумела, што ўвесь гэты абрад носіць архаічны характар і капіруе дзеянні вяроў літвінаў, іх паходы і баі. Невыпадкова і абыгрыванне Пагоні — сімвала дзеяў літвы.

Вытворчы ад слова літва дзеяслоў літаваць, апроч шкадаваць, ратаваць, міласціваць, таксама азначаў быць ахвярным, прысвяціць сябе выбранай справе. Спалучэнне гэтых абодвух паняццяў мы знойдзем у слоўніку Івана Насовіча: "Будзь ласков, литуй, политуй мене! Горла свойго не литую, не политую за цябе". Вось ён, прынцып беларуса: літасць за літасць, за міласць адказваць самаахвярнасцю міласэрдніку. І за Перунову міласць людзі не толькі прыносілі яму ахвяры і ўсхвалялі яго, але і "горла свайго не літавалі", апошнія называліся літамі (літасцівыя — самаахвярныя), а іх аб'яднанне натуральна Літва. Нагадаем, што суфікс *ва* азначае ваду, а яна суадносіцца з паняццямі плесці, віць, злучаць, звязваць (напрыклад, у старажытнаверхненямецкай мове *wadal* азначала сувязь).

Так што найменне Літва можна разумець, як аб'яднанне літаў — тых, хто ахвяраваў сябе служэнню Перуну. Паводле суфіксальнага ўтварэння, Літва супадае з такімі словамі, як брацтва, дзятва, чалавецтва, людства і др. (Цікава, што ліцейшчыкаў на заводах называлі літва.) Другой формай наймення дружыны літва было лотва. Корань *лот* азначае імклівы рух (а таксама летнюю ваду і бацвінне), а ўтвораны ад яго дзеяслоў *лоціці* — гнаць, праследаваць. Паколькі абавязкам літвінаў было "праследаваць ворагаў", дык натуральна, што іх называлі і лотвай. Герб Пагоня прама адпавядаў сэнсу гэтага наймення — тыя, хто гоніць ворага. Форма лютва (на Смаленшчыне і Случчыне), якая сустракаецца ў дакументах, можа ўказваць на дружыны воінаў-звяроў, у якіх татэмам быў воўк — люты звер, або на іх люцічскае паходжанне. А калі ўлічыць, што Літву яшчэ называлі і Летавія, дык, пэўна, гэтыя чатыры назвы сімвалічна адпавядалі чатыром іпастасям Перуна. Літо — вясенняй, лета — летняй, лота — восеньскай і люта — зімовай (у лютым на Грамніцы зіма сустракаецца з вясной-літо). Герб Пагоня якраз і раскрываў галоўную функцыю воіна-літа ахвяраваць сабой. Вось што пісаў у 1588 г. Андрэй Рымша:

**При которых з оружъем**<br>
**конный воин стоить,**<br>
**Знаком того,**<br>
**иж ся з них ни один не боить.**<br>
**Служить своим сподарем**<br>
**ку кождой потребе,**<br>
**Не литуючи скарбов, ни самого себе.**

Пэўна, спачатку літва была дружынай пры храмах Перуна, але з цягам часу гэтак пачаліся называцца ўсе баявыя дружыны язычнікаў. На чале літвы стаяў выбарны правадыр-князь, а воіны называліся баярамі. Падобную выснову пацвярджае беларуская песня пра Перуновага сына Дажбога, у якой ягоныя воі названы баярамі.

**Ой далеко за двором**<br>
**Едуць бояри усе рядом.**

Тэрмін баяры, як вызначэнне вайсковага саслоўя Вялікага княства Літоўскага, фіксуецца нямецкімі хронікамі і дакументамі.

Пярун лічыўся апекуном ваяроў (менавіта стод гэтага бога і паставіў Уладзімір у Кіеве на княжацкім двары), што адпавядала і функцыям арыйскага Індры. Арыйцы маліліся да Індры з просьбай заступніцтва над воінамі: "Будзь з намі, Індра, калі лунаюць сцягі, няхай нашы стрэлы будуць пераможнымі, даруй перамогу нашым воінам!".

Варта спыніцца на легендарных волатах — "першапродках" беларусаў. Беларускія паданні распавядаюць пра ўклад жыцця асілкаў: "Карміліся яны тым, што лавілі па лясам звярэй ды па водам рыбу. Адзежу сабе яны строілі з звярыных шкур". Як не нагадаць звесткі летапісаў, што літвіны "вовчии невыправные скуры носили". Вельмі ж падобна на тое, што волаты былі воінамі дружын літва. Яны ішлі наперадзе славянскай каланізацыі, таму і захавалася памяць пра іх, як пра герояў- волатаў (у эпасах воіны заўсёды надзяляюцца багатырскімі рысамі). На гэтую сувязь волатаў з дружыннікамі-літвінамі яскрава ўказваюць паданні сяла Вялецічы (Барысаўскі павет), у якіх захоўваюцца ўспаміны аб даўніх князях і бітвах з ворагам. А пра сувязь волатаў з Перуном мы ўжо казалі. Культ воіна-волата ў беларусаў атаясамліваўся з сімвалам народа: "Згодная грумада, бы адзін вялікі чалавек, вялікі багатыр, дужэйшы за ўсіх багатыроў". Вось яшчэ адзін сімвал віцязя Пагоні — "згодная грумада", сімвал усяго беларускага народа.

Менавіта з дружынамі літаў літвой і сутыкнуліся рускія князі, калі пачалі мячом пашыраць хрысціянства на крывіцка-дрыгавіцкіх землях. А паколькі давялося змагацца з літвой, дык у летапісцаў склалася ўяўленне, што гэта нейкі асобны народ, а паколькі яна прытрымліваецца паганства, дык Нестар залічыў яе "да инии языци". Падобная памылка ракавым чынам заблытала сапраўдную гісторыю Літвы, за якую пачалі прымаць народ, які ў "Аповесці мінулых гадоў" выступаў пад назвай Нарома і які акружалі лівы, корсь і земігола. Гэты народ жыў у басейне рэчкі Нярыс на сучасных летувіскіх землях. А вось дзе знаходзілася "хоробрая Литва", на якую хадзілі рускія князі, летапісы не ведаюць. Калі прааналізаваць іх паведамленні, дык бачым, што з Літвой ваюють кіеўскія, галіцка-валынскія, смаленскія, чарнігаўскія, полацкія, пскоўскія, ноўгарадскія, цвярскія, суздальскія, уладзімірскія, маскоўскія князі. Такое ўражанне, што Літва ці ўсясюдная, бо з'яўляецца амаль адначасова па ўсёй Русі, ці адразу межавала з усімі гэтымі княствамі. А разгадка простая: любая язычніцкая дружына ў рускіх летапісцаў атаясамлівалася з Літвой і нават народы. Так, Голядзь, якая знаходзілася на рэках Ака і Протва, для летапісца Літва, як і латыголь. Такой Літвой для летапісцаў было язычніцкае насельніцтва, якое жыло "па другі ўсходні бок Полацкага княства". На думку расійскага гісторыка Сабалеўскага, межы гэтай Літвы сягалі ад Усвятаў аж да вярхоўяў Волгі і ракі Вазузы. Таму тарапецкі князь Уладзімір Мсціславіч называецца ў летапісах літоўскім. Кім была гэтая Літва? Ці язычнікі балты ці язычнікі крывічы? Але ў XIX ст. іх тэрыторыя ўваходзіла ў межы беларускай мовы. А яе жыхары, па сведчанні этнографаў, мелі чыста беларускі характар. У гісторыкаў, якія памылкова звязвалі Літву з землямі Жамойціі, склалася ўражанне пра нібыта "ўзмацненне Літвы і аслабленне Полацкага княства". Так з'явілася прымітыўная дактрына пра заваёву "літоўскімі феадаламі" Беларусі. З назапашваннем новых фактаў гэтая дактрына не вытрымлівае крытыкі, а як паказаў наш вопыт сакральна-семантычнага аналізу слова літва, дык яно мае славянскае паходжанне.

*Працяг будзе.*

# АБМЕРКАВАЛІ І РАШЫЛІ...

***28 чэрвеня ў Міністэрстве культуры і друку Рэспублікі Беларусь адбылося пасяджэнне Калегіі, на разгляд якой, сярод іншага, было вынесена і пытанне "Аб дзейнасці перыядычных выданняў, заснаваных Міністэрствам культуры і друку".***

Заслухаўшы і абмеркаваўшы даклад намесніка начальніка Упраўлення сродкаў масавай інфармацыі Л. Ананіч, паведамленні галоўных рэдактараў газет "ЛіМ", "Культура" (М. Гілевіча і А. Камінскага), часопісаў "Спадчына", "Мастацтва", "Тэатральная Беларусь" (І. Чыгрынава, А. Дударава і А. Сабалеўскага) і адзначыўшы, што перыядычныя выданні, заснавальнікамі якіх выступае міністэрства, маюць сваю нішу ў культурна-інфармацыйнай прасторы рэспублікі, імкнуцца шырока і змястоўна асвятляць духоўную спадчыну беларускага народа, сённяшняе грамадска-культурнае жыццё краіны, Калегія прыняла рашэнне. У ім, у прыватнасці, гаворыцца: "Прызнаць, што рэдакцыйныя калектывы газет "Літаратура і мастацтва", "Культура", часопісаў "Спадчына", "Мастацтва", "Тэатральная Беларусь", маючы добры прафесійны патэнцыял і пэўныя творчыя набыткі, не ў поўнай меры выкарыстоўваюць рэальныя магчымасці для шырокага, аб'ектыўнага і ўсебаковага асвятлення культурна-мастацкага жыцця краіны, асэнсавання ролі і месца беларускай культуры і мастацтва, нацыянальнай творчай інтэлігенцыі ў кантэксце еўрапейскага і сусветнага культурнага працэсу". Тут жа даецца рэкамендацыя Упраўленню па справах мастацтваў (А. Кірыенка), Упраўленню ўстаноў культуры і народнай творчасці (Т. Стружэцкі): "Шырэй практыкаваць паездкі супрацоўнікаў рэдакцый газет і часопісаў разам з мастацкімі прафесійнымі і самадзейнымі калектывамі ў час іх гастрольных паездак па Беларусі і ў замежжа".

Рашэннем Калегіі працоўны калектыў рэдакцыі газеты "Літаратура і мастацтва" ўведзены ў склад заснавальнікаў выдання. Адпаведныя змены ў Пасведчанне аб рэгістрацыі "ЛіМа" будуць унесены Аддзелам рэгістрацыі перыядычных выданняў і ліцэнзавання.

Калегія прыняла да ведама заяву І. Чыгрынава аб тым, што ён складае з сябе паўнамоцтвы галоўнага рэдактара часопіса "Спадчына". Намесніку міністра культуры і друку І. Карэндзе, старшыні праўлення Беларускага фонду культуры І. Чыгрынаву даручана прадставіць на разгляд Калегіі кандыдатуру на пасаду галоўнага рэдактара часопіса "Спадчына".

Рашэннем Калегіі зацверджаны статуты рэдакцый газет "Літаратура і мастацтва", "Культура", часопісаў "Мастацтва", "Тэатральная Беларусь" і Дагаворы рэдакцый гэтых выданняў з заснавальнікамі аб арганізацыі выпуску перыядычных выданняў. Зацвярджэнне адпаведных дакументаў па часопісе "Спадчына" адкладзена да вырашэння пытанняў аб заснавальніках часопіса і аб галоўным рэдактары.

Міністру культуры і друку Калегія рэкамендавала заключыць кантракты з галоўнымі рэдактарамі газеты "Культура" і часопіса "Мастацтва".

Кіраўнікамі прадпрыемстваў "Белсаюздруку" і Магілёўскага арэнднага прадпрыемства "Прамень" сумесна з Упраўленнем культуры і інфармацыі аблвыканкамаў даручана прааналізаваць практыку рэалізацыі газет і часопісаў ("ЛіМ", "Культура", "Спадчына", "Мастацтва", "Тэатральная Беларусь") і зрабіць неабходныя захады па павелічэнні іх продажу ў магазінах і кіёсках, змяншэнню працэнта спісання гэтых выданняў.

# АСОБА

*(Пачатак на стар. 4)*

Яшчэ ў 50-ыя гады ён надрукаваў у "ЛіМе" свой слынны артыкул "Шанаваць родную мову", які, здавалася, ускалыхнуў цэлы свет — шумелі за мяжою, шумелі ў нас на радзіме нядобразычліўцы нашага старажытнага слова. Тады гэта было небяспечна, і студэнта Сачанку ледзь не выключылі з універсітэта. А пасля, колькі гадоў таму назад, ён быў адным з галоўных, хто напісаў і падрыхтаваў Закон аб мовах Беларусі, які прыняў Вярхоўны Савет і ў якім беларускай мове быў нададзены статус дзяржаўнай.

Барыс Іванавіч умеў працаваць. На сур'ёзную, удумлівую працу ён, здаецца, быў скіраваны з самага нараджэння. Закончыў школу з сярэбраным медалём. У студэнцкія гады больш за ўсё праседжваў у бібліятэцы: калі мы, упэўненыя, што перад намі вечнасць, што ўсё яшчэ паспеем, бавілі а то і марнавалі час, ён выкарыстоўваў кожную хвіліну, каб больш пабыць з кнігаю. "Веды, веды, веды" — быў яго жыццёвы прынцып. Таму не дзіўна, што за сваё жыццё ён сабраў унікальную бібліятэку, найпаўнейшы з усіх прыватных кнігазбораў Мінска, а яго веды і сапраўды сталі энцыклапедычныя.

На кожную новую працу ён прыходзіў звычайна са сваімі планамі і задумамі. І што вельмі важна — здзяйсняў іх. Колькі такіх задум збылося ў Саюзе пісьменнікаў Беларусі, дзе ён у свой час працаваў сакратаром праўлення. У выдавецтве "Мастацкая літаратура" Барыс Іванавіч прынёс таксама шмат цікавых, карысных ідэй, сярод якіх і самая найважнейшая — выданне стотомнай бібліятэкі "Скарбы сусветнай літаратуры". Падрыхтаваў спіс твораў для гэтай серыі і найперш намаганнямі яго, загадчыка рэдакцыі зарубежнай літаратуры Барыса Сачанкі выйшла каля двух дзесяткаў тамоў гэтай бібліятэкі. Шырока разумеў ён месца ў свеце незалежнай Беларусі і шчыра дбаў пра яе культурны набытак.

Асабліва яскрава ўсё гэта ўбачылася, калі Барыс Іванавіч узваліў на свае плечы цяжкую ношку — узначаліў выдавецтва "Беларуская энцыклапедыя". Шчыра кажучы, я адгаворваў яго, ведаючы Барысава здароўе і апантанасць усім, за што ён браўся. Але сябра не згадзіўся са мною — "некаму ж трэба", — а потым перацягнуў у выдавецтва і мяне самога.

Ён быў дзяржаўным чалавекам і выданне новай універсальнай васемнаццацітомнай энцыклапедыі лічыў найважнейшаю дзяржаўнаю справаю. Гэта таксама была яго глабальная задума — завяршыць XX стагоддзе, як пісаў ён усё ў тым жа інтэрв'ю-запавеце, зборам усіх ведаў пра Беларусь, якія накоплены светам і Беларуссю, выдаць да двухтысячнага года ўсе васемнаццаць тамоў "БелЭн", каб Беларусь у новае тысячагоддзе ўступіла годна, як і належыць сапраўды высокакультурнай краіне.

І для гэтай святой справы Барыс Сачанка зусім не шкадаваў сябе. Увесь свой час, усяго сябе ён аддаваў энцыклапедыі: а палове дзявятай уранку ён ужо на працы, а палове шостай увечары ён яшчэ на працы. Калі ні зойдзеш — у кабінеце, за сталом, сядзіць над слоўнікамі, макетамі, вёрсткамі, сядзіць над фінансавымі падлікамі. Нарады, абмеркаванні, планёркі... І размовы — толькі пра энцыклапедыю. Калі я злаваўся, казаў: "Хопіць пра энцыклапедыю, давай пра жыццё пагаварым", ён неяк задумліва ўсміхаўся: "А гэта ж і ёсць наша жыццё".

І глядзеў на кніжную паліцу ў кутку перад ім, на якой стаялі выданні апошніх, ягоных, гадоў. Ён ганарыўся гэтым кутком. Нягледзячы на круты час, на ўсеагульны развал і абвал, калі распаліся амаль усе энцыклапедычныя цэнтры новых краін, што ўзніклі на тэрыторыі былога Савецкага Саюза, яму цаною неймаверных намаганняў удалося зберагчы "Беларускую энцыклапедыю" і выдаць больш за дзесятак такіх унікальных энцыклапедычных даведнікаў, як "Архітэктура Беларусі", "Археалогія і нумізматыка", два тамы "Гісторыя Беларусі", шасцітомнік "Беларускія пісьменнікі" і інш.

Ён расказваў мне, што калі гэтую палічку ўбачыла госця—супрацоўніца энцыклапедыі з іншай новай дзяржавы, яна расплакалася — не магла даць веры, што ў гэтым хаосе можна выдаць столькі унікальных кніг.

Таму ён і ганарыўся гэтай палічкаю. І з любоўю і пашанаю ставіў на яе кожную новую, выдадзеную з такімі цяжкасцямі, кнігу. І ўсе разумелі яго, бо ў тым, што не распаўся беларускі энцыклапедычны цэнтр, — вялікая ягоная заслуга.

Так, ён умеў многа і плённа працаваць. Барыс Сачанка пакінуў народу больш за сорак кніг арыгінальнай, змястоўнай, разважлівай прозы, дзе ў раманах, аповесцях, апавяданнях, эсэ усё пра родны народ і родную зямлю, з якою лёс разлучаў двойчы: адзін раз, калі яго малога разам з сям'ёю фашысты вывезлі ў Германію, і ў другі раз, калі Чарнобыль адабраў малую радзіму, пасыпаўшы радыяцыйным попелам Гомельскую вобласць, Хойніцкі раён...

А яшчэ ж яго яркая, змястоўная публіцыстыка, якой ён апошнія гады аддаваў шмат увагі і сіл і дзе ўсё зноў жа пра Беларусь, пра яе мінулае, сённяшняе і будучае...

Ён, здаецца, усё ўмеў і мог на гэтай зямлі. І толькі адзінае, што не ўмеў і не мог, — шанаваць, берагчы сябе. Працаваў на знос. Апошнія тры гады не быў у адпачынку. Калі я казаў яму, што трэба вырвацца хоць на тыдзень, з'ездзіць куды-небудзь у вёску, развеяцца, злаваўся ўжо ён: як гэта, маўляў, я паеду, а як жа энцыклапедыя.

Я знарок гаварыў, успамінаў пра Барыса Іванавіча Сачанку як пра мужнага, сумленнага, шчырага, дзяржаўнага чалавека, як пра асобу, якая ўсё сваё жыццё, працу і творчасць аддала роднай Беларусі.

А можна ж было яшчэ ўспомніць, які чулы і ўважлівы быў ён чалавек. Як, да прыкладу, калі ўся мая сям'я, цяжка грыпуючы, ляжала з высокаю тэмператураю, ён сам нечакана з'явіўся ў нашай хаце з поўнаю авоськаю. Ці як у звычайны, будзённы дзень майго нараджэння, на які забыўся і я сам, ён раптам з'явіўся на парозе з вялікім букетам руж.

Але такія ўспаміны, мусіць, не для гэтага горкага развітальнага слова з чалавекам, пісьменнікам, асобаю, сябрам.

Бывай, дарагі, незабыўны дружа.

**Янка СІПАКОЎ**

Спадчына

# “БО ЯК ЛЮБІЦЬ ТОЕ, ЧАГО НЕ ВЕДАЕМ?..”

## ПАДАРОЖЖА Ў НЯСВІЖ ЛІТАРАТУРНЫ

Шматвяковая гісторыя беларускай літаратуры змяшчае ў сабе мноства імён, з якімі звязаны яе розныя этапы развіцця, перыяды ўзлёту і заняпаду, нацыянальнага самасцвярджэння і палітычнага крызісу. За кожнай рэальнай асобай стаіць пэўная эпоха, геаграфічная прастора, культурна-бытавы асяродак.

Што тычыцца літаратурнага Нясвіжа і літаратурнай Нясвіжчыны, то трэба адзначыць, што з гэтым маляўнічым кутком Беларусі так ці інакш судакранаюцца лёсы многіх пісьменнікаў.

Імя Сымона Буднага асацыіруецца з Нясвіжам перш за ўсё ў сувязі з падзеяй вялікай нацыянальна-культурнай і агульначалавечай важнасці — *выхадам у свет першых* кніг кірылаўскім шрыфтам на тэрыторыі Беларусі. Менавіта ў Нясвіжы 10 чэрвеня 1562 года быў выдадзены яго “Катэхізіс”, у *загалоўку якога пазначана*: “Катихисіс”, то ест Навука стародавная хрістіаньская от Святого Писма, для простых людей языка руского, въ пытаніах и отказъх събрана”. Мае гэтая кніга “Прадмову да ўсіх благаверных хрысціян рускае мовы”, “Пасляслоўі”, “Прысвячэнне” князям Радзівілам, якое падпісалі “повольные слугі” М. Кавячынскі, С. Будны і Л. Крышкоўскі.

Кніга С. Буднага, напісаная цудоўнай старабеларускай мовай, адразу звярнула на сябе ўвагу, стала аб’ектам вывучэння і аналізу многіх тагачасных выдаўцоў, паплечнікаў, прадаўжальнікаў яго справы, лю-дзей высокаадукаваных. “Сіла слоў Буднага, — адзначае Ю. Лабынцаў, — была такая вялікая, аргументы такія пераканаўчыя, а выбраная форма выдання такая ўдалая, шрыфт і мова добра зразумелыя, што і гэта можна сказаць без перабольшання, нясвіжскі беларускамоўны “Катэхізіс” увайшоў у аналы царкоўнай і грамадзянскай гісторыі ўсходнеславянскіх народаў”.

Праз тры месяцы пасля выдання “Катэхізіса” з Нясвіжскай друкарні выйшла другая кніга Сымона Буднага — “Апраўданне грэшнага чалавека перад Богам”, якая таксама была надрукавана на беларускай мове кірылаўскім шрыфтам. На вялікі жаль, аб гэтым выданні нам вядомы нешматлікія звесткі толькі з прац некаторых даследчыкаў. Сама ж кніга лічыцца страчанай. Са шкадаваннем трэба адзначыць, што экземпляры “Катэхізіса” захоўваюцца таксама далёка за межамі Беларусі.

Акрамя згаданых вышэй кніг, з той жа друкарні выйшаў польскамоўны “Катэхізіс” (1563—1564), у 1564 г. у перакладзе С. Буднага на польскую мову выйшлі “Размовы” Юстына (Будным да іх напісана “Прадмова”), выдадзены і іншыя працы Сымона Буднага (“Апокрыф”, “Аб зачацці Сына Божага” і г. д.). Не без яго ўдзелу ў 1564 г. надрукаваны тры антытрынітарныя трактаты арыянскага пісьменніка і тэолага Паўла з Бжэзін (“Адрозненні ў веры Станкаравых вучняў”, “Кароткае апісанне падзей, якія адбыліся ў 1563 годзе ў Кракаве і Пінчаве” і “Супроць артыкулаў новай веры, выказаных Сарніцкім у Варшаве”).

Нават з няпоўнага пераліку зробленага С. Будным у Нясвіжы, відаць, што пакінутая ім спадчына з’яўляецца невычэрпнай крыніцай “вывучэння філасофскіх”, тэалагічных, этычных і сацыяльна-палітычных поглядаў выдатнага *беларускага пісьменніка і* мысліўца XYI ст.” (І. Саверчанка, “Сымон Будны”). Прадоўжаная ім справа беларускага кірылаўскага кнігадрукавання сведчыць *пра* значныя зрухі ў сферы сацыяльна-культурнага жыцця та-гачаснай Беларусі. *Як справядліва* адзначыў Г. Галенчанка, дзейнасць Ф. Скарыны, С. Буднага, В. Цяпінскага “выразна адзначана блізкімі рысамі гуманістычнага светапогляду, звязана імкненнем паставіць новае кніжнае мастацтва на службу асвеце беларускага народа, выкарыстаць яго ў барацьбе за развіццё пісьменнасці, за ўмацаванне ў Беларусі універсальнай сістэмы еўрапейскай свецкай адукацыі”.

Вядучую ролю ў развіцці феадальнай культуры Беларусі адыгралі знакамітыя магнацкія роды. Род Радзівілаў як адзін з найбольш старажытных і магутных пакінуў значны след у гісторыі літаратуры і мастацтва. Працягваючы гаворку пра кнігавыдавецкую справу, аддадзім належнае Мікалаю Радзівілу Чорнаму. Ён быў фундатарам і арганізатарам гэтага пачынання ў Нясвіжы, стаў цвёрдай матэрыяльнай і духоўнай апорай Сымона Буднага. У сувязі са смерцю вялікага князя засталіся нязздзейсненымі многія творчыя задумы асветніка, узнікла неабходнасць пераезду на новае месца.

Мікалай Радзівіл Чорны быў не толькі актыўным прыхільнікам рэфармацыйнага руху, але і здольным публіцыстам. Пра яго пісьменніцкі талент, неардынарнае светабачанне найбольш яскрава сведчыць палемічны “Адказ” (1556) на “Ліст” Л. Ліпамана (папскага нунцыя ў Польшчы), “Прысвячэнне Жыгімонту Аўгусту”.

Нясвіжская рэзідэнцыя Радзівілаў на працягу многіх стагоддзяў гуртавала вакол сябе пісьменнікаў, архітэктараў, мастакоў, артыстаў, музыкантаў. Клапоцячыся пра сваю веліч, Радзівілы выступалі мецэнатамі многіх культурна-асветных пачынанняў, садзейнічалі развіццю літаратурных талентаў. Да таго ж асобныя прадстаўнікі магнацкага роду самі добра валодалі пяром, пакінулі пасля сябе багатую літаратурную спадчыну ў розных жанрах: паэзію, прозу, драматургію, мемуарыстыку, эпісталярый...

Калі звузіць гаворку вакол Нясвіжскага кола Радзівілаў-пісьменнікаў, то перш за ўсё неабходна вылучыць Мікалая Крыштафа Радзівіла (Сіротку). Як пра палітычнага дзеяча, пра яго можна гаварыць многа і неадназначна. Пры яго ўладанні Нясвіж істотна змяніў свой архітэктурны выгляд. У рэзідэнцыю былі запрошаны лепшыя спецыялісты Еўропы ў розных галінах навукі і культуры. Як пісаў У. Сыракомля, “Мікалай Крыштаф стварыў, можна сказаць, тутэйшы край, які яшчэ нядаўна лічыўся лясной пустэчай”. З другога боку, нельга абысці ўвагай яго актыўную дапамогу езуітам у барацьбе з рэфармацыйным рухам і праваслаўем, загад паліць так званыя “ерэтычныя” кнігі. Прадукцыя Нясвіжскай друкарні пры ім пачала выходзіць толькі на польскай і лацінскай мовах.

*На літаратурнай ніве* Мікалай Радзівіл Сіротка шырока заявіў пра сябе кнігай “Падарожжа да Святой Зямлі...”, напісанай ім на аснове дзённікавых запісаў. У падарожжа аўтар адправіўся 16 верасня 1583 г. і знаходзіўся за межамі радзімы болей года. Апрацоўваць занатаванае ён пачаў праз шэсць гадоў пасля вандроўкі і закончыў працу ў 1595 г. У 1601 годзе кніга пабачыла свет у Варшаве. На працягу некалькіх стагоддзяў яна мела 19 перавыданняў, была перакладзена на іншыя мовы свету (нямецкую, лацінскую, рускую). Кніга карысталася шырокім попытам і не страціла сваёй гістарычна-літаратурнай каштоўнасці і цяпер. Яна напісана каларытнай мовай, змяшчае багаты пазнавальны матэрыял. Праз ураджанні падарожніка-пілігрыма чытач знаёміцца з архітэктурай, народнымі звычаямі і абрадамі, прыроднымі ўмовамі Палесціны, Сірыі, Лівана, Егіпта, Італіі... Апісаныя аўтарам з’явы і падзеі дазваляюць пранікнуць у духоўны свет пісьменніка, адчуць яго светаўспрыманне, неардынарнасць і адначасова артадаксальнасць натуры, яго жаданне “пашырыць кругагляд землякоў”. Заслугоўвае ўвагі і эпісталярная спадчына Мікалая Крыштафа, якая змешчана ў кнізе “Arehiwum domu Radziwillow”, выдадзенай у 1885 г. у Кракаве.

Асаблівай цеплынёй і глыбокай пранікнёнасцю прасякнуты лісты слаўнай жыхаркі Нясвіжа Уршулі Радзівіл (з роду Вішнявецкіх), якія былі адрасаваны мужу Міхалу Рыбаньку. І ўсё ж Уршуля Радзівіл найбольш вядомая як драматург, стваральнік Нясвіжскага прыдворнага тэатра, які фактычна быў першым стацыянарным тэатрам на тэрыторыі Беларусі. З прыходам у 1746 г у тэатр Уршулі Радзівіл пачалася і яе творчасць у галіне драматургіі. Княгіня пісала драматычныя творы з разлікам на іх сцэнічнае ўвасабленне. Яны мелі дыдактычны характар, прызначаліся да пэўных юбілеяў, свят.

Дамінуючай тэмай у драматургіі Уршулі Радзівіл было каханне. Многія даследчыкі звязваюць гэта з вялікай любоўю княгіні да мужа, — з яе раўнівым характарам. З выказанай версіяй даводзіцца лічыцца, бо самі сюжэты і назвы твораў (“Дасціпнае каханне”, “Каханне нараджаецца з позірку”, “Каханне — дасканалая штукарка”, “Сляпое каханне не зважае на вынікі...”) з’яўляецца тут яскравым пацвярджэннем.

Дзякуючы “Дыярыушу” Міхала Радзівіла Рыбанькі, які ён вёў *штодзённа* больш за трыццаць гадоў, стала магчымым устанавіць многія факты тэатральнага і сямейнага жыцця Радзівілаў: рэпертуар тэатра, колькасць спектакляў, п’есы, у якіх выконвалі ролі іх дзеці...

Уршуля Радзівіл была жанчынай высокаадукаванай, чалавекам духоўна багатым. Яна добра ведала сусветную літаратуру, выкарыстоўвала ў сваіх творах сюжэты арабскіх казак, твораў антычнасці, персідскія матывы, славянскія паданні. Вядомая яна і як перакладчыца твораў Ж.-Б. Мальера, а таксама як аўтар вершаў, здольнасць да якіх праявіла яшчэ ў дзяцінстве. Дзякуючы ініцыятыве Уршулі Радзівіл была адноўлена замкавая друкарня, узведзена спецыяльнае памяшканне тэатра “Камедыхаўз”, узбагачаны фонды радзівілаўскай бібліятэкі.

Творчая спадчына Уршулі Радзівіл з’яўляецца каштоўным гісторыка-літаратурным матэрыялам, дакументам пэўнай эпохі, рэдкай нацыянальна-культурнай з’явай. Яна напоўнена тагачасным шматфарбным жыццёвым матэрыялам. Напісанае ёй трэба сабраць, навукова апрацаваць і выдаць услед за польскай на беларускай мове.

У сувязі з Нясвіжскім тэатрам неабходна згадаць імя Мацея Радзівіла — аўтара лібрэта опер “Агатка” (1784) і “Войт альбанскага селішча” (1786). Да першай з іх музыку напісаў кампазітар Е. Голанд, музыка ж другой належыць пяру самога Радзівіла. У пастаноўцы яе адну з роляў выконваў сам аўтар.

Для многіх пісьменнікаў Беларусі Нясвіж стаў крыніцай пазнання свету, спасціжэння духоўнасці, пачаткам шляху ў вялікае жыццё. “Малым дзіцем трапіў я сюды, — пісаў у “Вандроўках па маіх былых ваколіцах” Уладзіслаў Сыракомля, — і тут, у радыусе некалькіх міль, прайшло ўсё мае маленства, юнацтва і сталыя гады, тут зведаў я ўсе чалавечыя пачуцці — ад хлапчуковай радасці, калі ганяўся за матылём, і да сардэчнага болю, калі як бацька плакаў над магілкамі дзяцей. Гэтае сціплае мястэчка было першым горадам, які бачыў я ў жыцці, у гэтым ціхім касцёле пачуў я першы раз голас арганаў, прыняў там першае прычасце, якраз там на школьнай лаве ўпершыню пакаштаваў я пладоў навукі, там пад ценем вясковага алешніку, каля крыніцы, пачаў я прычашчацца да высокага святла і марыць пра нязнанае яшчэ пачуццё кахання, у гэтым старажытным замку я ўвайшоў юнаком у кола таварыскага жыцця, у гэтай святыні ўзяў я шлюб, а потым у гэтай наднёманскай ваколіцы з Богам і кніжкай ступіў на пісьменніцкую дарогу...”

У прыведзеным тэксце выразна праглядваюцца гады навучання У. Сыракомлі ў Нясвіжскай павятовай школе пры дамініканскім кляштары, служба ў канцылярыі радзівілаўскіх маёнткаў, згадваецца сяброўства пісьменніка з колішнімі выпускнікамі Віленскага універсітэта, а таксама вянчанне ў фарным касцёле з Паўлінай Мітрашэўскай. Пазней сувязь пісьменніка з Нясвіжам фактычна перапынілася. Аднак перажытае і ўбачанае ў ім, вядома ж, засталося ў сэрцы мастака, знайшло свой працяг, увасобіўшыся ў мастацкіх творах і навукова-даследчых працах.

Акрамя названых вышэй “Вандровак...”, дзе столькі месца адводзіцца Нясвіжу, магнацкаму роду Радзівілаў, варта згадаць тэматычна блізкі цыкл вершаў У. Сыракомлі “Успаміны пра Нясвіж”, яго гутарку “Школьныя часы”, вершы “Да ***”, “Ілюмінацыя” і інш. Так склалася, што пісаў ён пераважна на польскай мове, аднак тэматыка, месца разгортвання падзей, фальклорная аснова ў яго творах — у большасці беларуская. “Лірнік вясковы” праз усё жыццё пранёс любоў да Беларусі. У нататцы “Нёман ад вытокаў да вусця” ён пісаў: “...Нельга палюбіць родную маці-зямлю без глыбокага і шырокага пазнання ўсяго яе аблічча. Навучыцца глядзець у іскру, што злятае з яе веек, плакаць слязьмі, што льюцца з яе вачэй ці ліцца маглі, нават лічыць з любоўю маршчынкі на высакародным абліччы — вось прыкметы любові. Вывучаць нашу родную зямлю ў адносінах гістарычных, прыродазнаўчых, этнаграфічных, археалагічных, геаграфічных — гэта, як мне здаецца, толькі нязначны вынік таго, што звычайна завецца любоўю да бацькаўшчыны.

Бо як жа любіць, як жа аддаваць кроў за тое, чаго не ведаем і не разумеем?”

Удумайцеся ў гэтыя словы, і вы зразумееце, што Нясвіж (Нясвіжчына) — не проста геаграфічная назва на карце Еўропы.

**Тэрэза ГОЛУБ**


ЛіМ ЛІТАРАТУРА І МАСТАЦТВА

ГАЗЕТА ТВОРЧАЙ ІНТЭЛІГЕНЦЫІ БЕЛАРУСІ

ЗАСНАВАЛЬНІКІ:

**Саюз беларускіх пісьменнікаў і Міністэрства культуры і друку Рэспублікі Беларусь**

**ВЫХОДЗІЦЬ З 1932 ГОДА**

***Газету рэдагавалі***

***Х.Дунец (1932–35)***
***І.Гурскі (1935–41)***
***А.Куляшоў (1945–46)***
***М.Горцаў (1947–49)***
***П.Кавалёў (1949–50)***
***В.Вітка (1951–57)***
***М.Ткачоў (1957–59)***
***Я.Шарахоўскі (1959–61)***
***Н.Пашкевіч (1961–69)***
***Л.Прокша (1969–72)***
***Х.Жычка (1972–76)***
***А.Асіпенка (1976–80)***
***А.Жук (1980–86)***
***А.Вярцінскі (1986–90)***

**Галоўны рэдактар Мікола ГІЛЬ**

**РЭДАКЦЫЙНАЯ РАДА:**

**Святлана БЕРАСЦЕНЬ**
**Міхась ЗАМСКІ**
**Галіна КАРЖАНЕЎСКАЯ**
**Жана ЛАШКЕВІЧ**
**Алесь МАРЦІНОВІЧ**
**Барыс ПЯТРОВІЧ,** ***першы намеснік галоўнага рэдактара***
**Юрась СВІРКА**
**Віктар ШНІП,** ***намеснік галоўнага рэдактара***



**АДРАС РЭДАКЦЫІ: 220600, ГСП, Мінск, вул. Захарава, 19**

**ТЭЛЕФОНЫ:**
прыёмная рэдакцыі -- ***332-461***
намеснікі галоўнага рэдактара -- ***332-525, 331-985***
аддзелы:
публіцыстыкі -- ***332-525***
пісьмаў і грамадскай думкі -- ***331-985***
літаратурнага жыцця -- ***332-462***
крытыкі і бібліяграфіі -- ***332-204***
паэзіі і прозы -- ***332-204***
музыкі -- ***332-153***
тэатра, кіно і тэлебачання -- ***332-153***
выяўленчага мастацтва і аховы помнікаў -- ***332-462***
навін -- ***332-462***
мастацкага афармлення -- ***332-204***
фотакарэспандэнт -- ***332-462***
бухгалтэрыя -- ***268-640***





**Набор і вёрстка камп'ютэрнага цэнтра «ЛіМа»**

**Апаратныя сродкі і тэхнічная падтрымка — фірма «Дайнова»**

Выходзіць раз на тыдзень па пятніцах

Друкарня "Беларускі Дом друку". (г.Мінск, пр. Ф.Скарыны, 77)

Індэкс 63856. Наклад 6858.
Нумар падпісаны 13. 7.1995 г.
ЗАКАЗ 2547
Д 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12